Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск




# рэгіянальная газета

11 красавіка 2003 года

№ 15 (416)
Выходзіць па пятніцах

ПАНОС Тэлетыдзень

**Навіны рэгіёну**

## Вярнулася зіма

АШМЯНЫ. У рэгіёне ў панядзелак выпаў снег.

Выпадкаў снегападу ў красавіку на Ашмянскай метэастанцыі раней не зафіксавана. Начальнік метэастанцыі Наталля Більман гаворыць, што велічыня выпаўшага снежнага пакрову ў сярэднім складае 9 міліметраў. Красавік чакаецца халодным, сапраўдная вясна пачнецца ў маі. А пацяпленне, якое прагназуецца ў наступныя дні, можа абярнуцца небяспечнай паводкай.

Юрый КАРПІЦКІ.

## Здарэнне ў снегапад

ВІЛЕЙКА. На дарозе Барысаў-Вілейка-Ашмяны сутыкнуліся легкавая машына "Фольксваген-Гольф" з ГАЗ-66, які ехаў насустрач.

Вадзіцель (1957 года нараджэння) легкавушкі загінуў. 5 чалавек шпіталізаваныя. Здарэнне адбылося ў аўторак, а палове восьмай гадзіны вечара, калі ішоў моцны снегапад.

Ірына РАБУШКА.

## Застаўся без гадзіннікаў

МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні супрацоўнікі аддзела ўнутраных спраў Маладзечанскага ГРАУС у цягніку Гродна-Мінск канфіскавалі 5700 імпартных гадзіннікаў на суму амаль 22 мільёны рублёў.

Гэты тавар без суправаджальных дакументаў вёз жыхар Санкт-Пецярбурга. Расіяніна адпусцілі, узбуджаная крымінальная справа.

Ірына РАБУШКА.

## Валожынец у КВЗ

ВАЛОЖЫН. Выпускнік гімназіі **Антон Камінскі** выступае ў мінскай камандзе "ЧП", якая гуляе ў вышэйшай лізе клуба вясёлых і знаходлівых (КВЗ).

Першую гульню "ЧП" у гэтым сезоне паказвалі ў нядзелю. "ЧП" упэўнена прабілася ў чвэрцьфінал. Цяпер Антон Камінскі вучыцца на 5 курсе Дзяржаўнага педагагічнага універсітэта.

Наталля ШТЭЙНЕР.

## Еўрабутэрброд

МЯДЗЕЛ. Многія жыхары раёна могуць дазволіць сабе на сняданак еўрапейскі бутэрброд: намазаць на хлеб чэшскага масла, наверх пакласці нямецкі сыр ці польскі сервелат або бекон.

Апошнім часам у магазінах Купы і нарачанскай зоны пастаянна прадаюць канфіскаваныя на мытні прадукты харчавання. Перападае штосьці і Мядзелу. Цэны на замежныя прадукты невысокія: польская кілбаса — 5000 за кілаграм, сыр з Нямеччыны — 4100.

Алесь ВЫСОЦКІ.

# Атручаная зямля

**МАЛАДЗЕЧНА. Трэцюю вясну запар дамы №10, 12,14 па праездзе Прыгарадным у Залінейным раёне (Лясныя) затоплівае нечыстотамі.**

Такое здараецца і з іншымі дамамі. Усе яны знаходзяцца побач з гарадской каналізацыйнай канавай.

У панядзелак зямлю пакрыў снег. З аднога боку, можа, гэта і да лепшага гаспадарам з Прыгараднага. Таму што яны ўсё роўна нічога не будуць садзіць у сваім агародзе. Баяцца атруціцца. Добра і таму, што снег прыкрыў гэтую атручаную зямлю, а разам з ёй і смурод.

Дрэнна з-за таго, што снег хутка растане. Вада зноў падыдзе да самых ганкаў. На яе паверхні зноў заблішчаць плямы мазуту, бензіну. Ізноў можа здохнуць, напіўшыся такой вады, чыйсьці сабака ці кот, як гэта ўжо было.

Аднойчы вада перапоўніла канаву. Здавалася, што гэта асфальт. Так падалося і дзяўчынцы гадоў шасці. Яна ступіла і... правалілася. На шчасце, яе выратавалі. Валасы абстрыглі і выкінулі адзенне – яго нельга было адмыць.

Летась прама на карані "захлынуліся" суніцы, цыбуля, часнок ды кветкі. Не зберагліў падвалах і скляпах бульбу, буракі, капусту. За 5 мяхоў бульбы, якія прапалі ў **Марыі Бабровіч**, "Камунальнік", як яна сказала, налічыў 109 тысяч рублёў урону, якія пакуль не кампенсавалі. Жыхары гэтай часткі горада не карыстаюцца калодзежамі ў сваіх дварах.


Маладзечанка Марыя Бабровіч з дома №14 па праездзе Прыгарадным, як і яе суседзі, баіцца піць ваду з уласнага калодзежа, таму што яе падворак затоплівае нечыстотамі з гарадской каналізацыйнай канавы. Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Каментарыі:**

Старшыня ГА "Маладзечанскі экалагічны цэнтр "Крыніца" **Алег Бяганскі**:

– Адзін з этапаў ачысткі сцёкавых каналізацыйных вод – сажалкі-адстойнікі. Глей, які асядае ў гэтых сажалках, – вельмі небяспечны. Як сцвярджаюць мясцовыя жыхары, такі глей знаходзіцца на іх прысядзібных участках. Таму патрабаванне людзей насыпаць ім 30-сантыметровы слой глебы – цалкам апраўданае. Разліў нафтапрадуктаў забруджвае глебу на доўгія гады і зніжае яе ўрадлівасць.

Акрамя хімічнага, агароды маглі атрымаць і арганічнае забруджванне. З'есць хто-небудзь недастаткова памытую моркву ды захварэе дызентэрыяй.

Сітуацыя з жыхарамі праезду Прыгараднага гаворыць аб тым, што гарадскія сцёкі трапляюць ва Ушу без ачысткі. Ранней падобны факт выявілі на рэчцы Бухаўка.

Загадчыца аддзела камунальнай гігіены Маладзечанскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі (РЦГіЭ) **Таццяна Кугара** сказала, што трэба праверыць ваду і зямлю, але з пісьмовай заявай у РЦГіЭ жыхары праезду Прыгараднага не звярталіся:

– Зямлю цяпер праверыць не можам, бо яшчэ мерзлая. Але калі ў ёй і былі мікраарганізмы, то ўсе яны загінулі. Гэтаму паспрыяла мінусавая тэмпература. Аналіз вады зрабіць можам. Гаспадарам трэба напісаць заяву на імя галоўнага ўрача РЦГіЭ, і тады прыедзе наш спецыяліст.

Ірына РАБУШКА.

## Свет, у якім я жыву

Маладзечанскі цэнтр пазашкольнай работы праводзіць экалагічны тыдзень "Свет, у якім я жыву". 12 сакавіка ў рамках тыдня пройдзе шоу "Міс-Кіс-Маладзечна-2003".

2-я старонка

## «Касіць» ад арміі не трэба

85 гадоў таму ўтварыліся ваенныя камісарыяты. Чым цяпер жывуць ваенкаматы і хто служыць у сучасным войску?

4-я старонка

## Прызы ад «РГ»

10 фірменных маек разыгрываюцца сярод чытачоў газеты, якія запоўняць нашую анкету. Адкажыце на пытанні, раскажыце пра сябе, чым цікавіцеся, і мы зробім усё, каб стаць яшчэ бліжэй.

5-я старонка

■ ЭКАЛОГІЯ

# Свет, у якім я жыву

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак у цэнтры пазашкольнай работы (ЦПР) прайшла выстаўка-конкурс "Другое жыццё смецця".**

Там былі попельніцы, падсвечнікі, цацкі, упрыгожванні, сродкі індывідуальнай аховы, нават адзенне. Гэта ўсё маладзечанскія школьнікі зрабілі з бытавых адходаў.

Журы, у якім былі прадстаўнікі ЦПР, гарадскога парку, гарадской дзіцячай бібліятэкі, пераможцамі прызначылі 2 калектыўныя работы. Першае месца раздзялілі 8 "Б" клас СШ №9 і гуртоК "Тэатр моды" ЦПР. Яны зрабілі цэлыя камплекты адзення. Зразумела, гэта не паўсядзённае адзенне і насіць яго ніхто не будзе, але ў школьным музеі капялюшыкі і сукенкі, зробленыя з абгортак ад чыпсаў, шакаладак, цукерак, будуць глядзецца з цікавасцю.

Другое месца – у **Кацярыны Мігуры** (гурток "Юныя кветкаводы", ЦПР) з работай "Мексіканскае лета", трэцяе месца падзялілі **Яўгенія Дзіткоўская** (СШ №2) з работай "Павучок" і **Вольга Зянько** (гурток "Юны ўмелец", ЦПР) з "Чарцянём". Пераможцы і прызёры атрымалі прызы і дыпломы.

Гарадскі конкурс "Другое жыццё смецця" праходзіць у рамках экалагічнага тыдня "Свет, у якім я жыву". Арганізавалі мерапрыемствы ЦПР. Большасць з іх адбудзецца ў памяшканні цэнтра па вуліцы Машэрава. Пачаўся тыдзень з урачыстага адкрыцця ў панядзелак. Школьнікам, якія сабраліся ў актавай зале ЦПР, нагадалі, што смецце трэба збіраць у спецыяльныя кантэйнеры і ні ў якім разе не кідаць дзе папала. І так нашая зямля забруджаная. Гледачам нагадалі, што кансерваваная бляшанка раскладаецца за 100 гадоў, алюмініевая банка і пластыкавая бутэлька – за 500, а рэчы са шкла – ніколі.

У аўторак адбылася тэатралізаваная пастаноўка "Курыць ці не курыць?", у сераду – дэманстрацыя экалагічных вопытаў, у чацвер – свята птушак. 11 красавіка пройдзе аперацыя "Сад", у суботу – шоу-праграма "Міс-Кіс-Маладзечна-2003". А 12-й гадзіне пачнецца конкурс сярод хатніх кошак на званне "Міс-Кіс". Акрамя гэтага, пройдуць конкурсы малюнкаў, фотаработ, мяккіх цацак на тую ж тэматыку. Экалагічны тыдзень "Свет, у якім я жыву" завершыцца ў нядзелю паходам выхаднога дня.

Юрый КАРПІЦКІ.




Адна з пераможцаў конкурсу "Другое жыццё смецця" Аня Пасынак з 8 "Б" класа СШ №9 з капелюшом і сукенкай, якія зроблены з абгортак ад прысмакаў.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

■ КОНКУРСЫ

## Наш аўтар – у пераможцах

**МІНСК. У пачатку года грамадскае аб'яднанне "Беларускі ПЭН-цэнтр" абвясціла літаратурны конкурс імя Наталлі Арсенневай. Брацы удзел у ім маглі маладыя творцы ад 14 да 24 гадоў. Усяго паступіла каля двухсот твораў, з якіх трэба было выбраць 15 найлепшых.**

25 сакавіка журы ў складзе М. Тычыны (старшыня), А. Дынька, Г. Кісліцынай, М. Скоблы і А. Хадановіча назвала імёны фіналістаў. Сярод іх і наш аўтар, студэнт выпускнога курса факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта і Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта віляйчанін **Аляксей Чубат**. Па выніках конкурсу плануецца выдаць зборнік пераможцаў.

Наталля Арсеннева ў перадваенны час працавала ў Вілейскай абласной газеце. Праз шэсцьдзесят з лішкам год віляйчанін перамог у літаратурным конкурсе яе імя.

Аляксей Чубат першыя спробы пяра рабіў у газеце вілейскіх скаўтаў "Лілея", якая выходзіць па сённяшні дзень пад кіраўніцтвам таксама нашага аўтара Віталя Паўлоўскага.

Аддзел інфармацыі "РГ".

■ ПРАФЕСІЯ

# Іголкі для здароўя

**МЯДЗЕЛ. Доктар Юрый Прус з санаторыя «Белая Русь» спецыялізуецца у досыць незвычайнай галіне – іголкатэрапіі. Пра некаторыя асаблівасці сваёй справы і расказвае.**

**Што гэта такое – іголкатэрапія?**

– Каб вылечыць захварэўшага чалавека, на арганізм можна ўздзейнічаць па-рознаму: таблеткамі, травамі, псіхічна. Іголкатэрапія – адзін з метадаў такога ўздзеяння. У ім выкарыстоўваюцца энергетычныя каналы і кропкі, якія на гэтых каналах знаходзяцца. Адразу праводзім дыягностыку з дапамогай спецыяльнага апарата. Ён фіксуе 24 асноўныя энергетычныя паказчыкі каналаў. У залежнасці ад іх стану праводзім лячэнне, уздзейнічаем на патрэбныя кропкі: ім можа не хапаць энергіі, а можа быць яе зашмат. Задача – збалансаваць энергетычныя паказчыкі. Для гэтага прымяняем іголкі, спецыяльныя масажоры, лазеры, пераменны электрычны ток.

З прымяненнем метаду можна лячыць радыкуліт, гастрыт, мігрэнь, захворванні вегетатыўнай нервовай сістэмы і іншыя. Але ёсць і патрабаванне – каб хвароба не зайшла далёка, не закранула ўзровень клетак.

А зацікавіўся Юрый Прус іголкатэрапіяй падчас вучобы ў медінстытуце. Даведаўся, што існуюць такія кропкі, уздзеяннем на якія ў Паўднёва-Усходняй Азіі лечаць спакон веку. А калі пачаў гэтым займацца, то ўбачыў, што можа дапамагчы людзям, якім раней не здолеў бы. Вырашыў, што гэта яго накірунак у медыцыне.

**– Чым ваша праца адрозніваецца ад працы звычайнага доктара?**

– Практычна нічым. У кожнага, так сказаць, свой «калідор»: адным я магу дапамагчы, другім – іншы спецыяліст. Я таксама праводжу агляд, слухаю скаргі пацыента – адсюль асноўная інфармацыя для пастаноўкі дыягназу. А прыборы, камп'ютэр – яны ўжо даюць дэталёвы баланс энергетычных каналаў.



Юрый Прус нарадзіўся ў 1965 годзе. У 1988 годзе скончыў Мінскі медыцынскі інстытут. З 1996 года працуе ў санаторыі "Белая Русь", з чэрвеня 2002 года – намеснік начальніка санаторыя па лячэбнай рабоце. Доктар-рэфлексатэрапеўт вышэйшай катэгорыі.

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Доктар расказвае, што хоць людзі няшмат пра іголкатэрапію ведаюць, але ведзьмаком не лічылі. Тут жа іголкі прымяняюцца, а гэта ўжо штосьці рэальнае, іх можна памацаць.

**– Юрый Рыгоравіч, а чаго імкнецеся дасягнуць?**

– Хацелася б стаць тым, каго ў Кітаі называюць «майстар справы». Гэта не тытул які спецыяльны. Так называюць чалавека, які авалодаў усімі таямніцамі сваёй справы, і не мае значэння, чым ён займаецца: повар ён, земляроб ці доктар.

**– А ў вашай прафесіі, як гэта вызначыць?**

– Думаю, як і ў іншых, гэта залежыць ад прызнання людзей.

Алесь ВЫСОЦКІ.

■ ПАМЯЦЬ

# Два акадэмікі: Карпенка і Кіт

**Нехак разглядаў свой сямейны фотаархіў. А такі ёсць, напэўна, у кожнага беларуса. Я ўспомніў даўнюю шчырую размову за філіжанкай кавы на кватэры ў былога мэра нашага горада Генадзя Карпенкі.**

Мы ўтраіх: я, мастак Святаслаў Палівода і Генадзь Карпенка былі на з'ездзе Таварыства беларускай мовы ў Мінску. Пасля з'езда нас запрасіў да сябе дамоў агладальнік тагачаснай "Народнай газеты" Павел Якубовіч. Там, як гэта звыкла бывае з мужчынамі, заседзеліся. Гаварылі ў асноўным пра навуку. І гэта было натуральна, бо пакойны Генадзь Дзмітрыевіч узначальваў у той час дэпутацкую камісію Вярхоўнага Савета па навуцы, ды да таго ж яго нядаўна абралі акадэмікам. Праўда, гаварыў больш гаспадар дома Павел Якубовіч, дэманструючы нядрэннае для журналіста веданне арганізацыйна-навуковых праблем. Генадзь Дзмітрыевіч слухаў, слухаў – о, як цярпліва ён умеў слухаць, урэшце, ужо зусім "на пасашок", як журналіст спытаўся: "А Вы, акадэмік, якое бачыце выйсце з таго, што нашыя навукоўцы так слаба дапамагаюць практыкам на вытворчасці?" (задумлівы твар вучонага асвяціўся ўсмешкай. Гэта была тая ласкавая ўсмешка, якой яшчэ доўга не забудуцца маладзечанцы) — і ціха так сказаў: "Выйсце, Паша, у падборы і расстаноўцы навуковых кадраў, нашых беларускіх, не прыхадняў, не манкуртаў, не "времеНщиков"! Тых, для якіх, апроч беларускай, роднай, іншай зямлі на свеце няма. Я гэта спазнаў праз свой лёс. Вось за гэта давай чаркі ўгору падымем!". Узнялі.

Потым ён праводзіў нас на вакзал і вельмі прасіў, каб мы позняй ноччу не ішлі праз горад дамоў (я жыў тады ў Насілаве), паклаў мне ў кішэню ключы ад сваёй службовай кватэры ў Маладзечне і ўзяў з нас слова, што не адмовімся пераначаваць там. Сам жа застаўся ў Мінску.

Назаўтра, а гэта была нядзеля, ён разбудзіў нас прыемным пахавам кавы і воклічам: "Студэнты, снедаць!". І вось тут за філіжанкай кавы мы і распавялі нашаму акадэміку, што задоўга да яго тут працаваў дырэктарам гандлёвай школы іншы акадэмік многіх еўрапейскіх навуковых устаноў, кіраўнік амерыканскага касмічнага цэнтра, патрыёт Беларусі Барыс Кіт. Як вядома, без яго матэматычнага забеспячэння не маглі б амерыканцы злятаць на Месяц, а без яго вынаходства ў галіне ракетнага паліва не ляталі б іх касмічныя чаўнакі.

"І наогул, — трохі заікаючыся ад хвалявання, сказаў мастак Славамір, — нашы родныя цёткі Ганна Палівода і Антоля Канановіч былі тут у Маладзечне вучаніцамі Барыса Кіта, потым былі настаўніцамі і вучылі нас. Таму і мы, так бы мовіць, самі з вусамі".



Здымак зроблены на адной з урачыстасцей ў час, калі Генадзь Карпенка быў старшынёй Маладзечанскага гарвыканкома.

Архіў "РГ".

"А я ведаю і спадара Кіта, і вас асабіста. А вось з цёткамі вашымі таксама рад быў бы пазнаёміцца. Трэба нам ведаць сваіх. Не толькі для памяці, але і для справы, для карысці Радзіме. Вы гляньце на габрэяў. Вось дзе прыклад!".

Тады і я ўзгадаў пра фотаздымкі навучэнцаў Маладзечанскай гандлёвай школы, якія ў нашых сем'ях перахоўвалі ад сталіністаў як светлы ўспамін аб марах пра нашу будучую незалежнасць. На гэтых фотаздымках зазняты яшчэ зусім малады беларускі геній разам са сваімі калегамі і выхаванцамі. Казалі, што ён вельмі не любіў акупантаў: ні гітлераўскіх, ні сталінскіх. Спадзяваўся, што на руінах крывавых рэжымаў паўстане вольная Еўропа, а ў ёй адродзіцца Беларуская Народная Рэспубліка, вольная і дэмакратычная дзяржава. Для гэтага і заснаваў гандлёвую школу, дзе па праграмах ВНУ рыхтаваў гаспадарчую і эканамічную эліту для бацькаўшчыны.

Лявон ЦІМОХІН, гісторык, настаўнік СШ №5.

■ СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# Вёска на мяжы выжывання

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў ад Мядзельшчыны і Вілейшчыны **Ігар Баслык** у складзе дэпутацкай групы "Рэспубліка" падпісаў заяву прэм'ер–міністру Беларусі Генадзю Навіцкаму. У заяве гаворыцца, што сітуацыя ў сельскай гаспадарцы пагоршылася настолькі, што вёска сёння апынулася на мяжы выжывання. Калі такі дакумент падпісвае аўтарытэтны ў колах сельскагаспадарчых кіраўнікоў не толькі Нарачанскага краю чалавек – Ігар Баслык узначальваў у свой час вядомую сваімі поспехамі птушкафабрыку "Зара камунізму", – то справы у сельскай гаспадарцы сапраўды ніякія.

Дзяржаўныя праграмы па рэанімацыі сельскагаспадарчай вытворчасці, гаворыцца ў заяве, не выконваюцца. Адсутнасць пунктаў медыцынскай дапамогі і бальніц, магазінаў, лазняў, дзіцячых садоў, скарачэнне аўтобусных маршрутаў прывяло да магутнага адтоку працаздольнага насельніцтва з сельскіх раёнаў. Дзесяткі вёсак апусцелі, у некаторых засталося па 5-6 старых. Узровень жыцця сялян пастаянна зніжаецца.

На фоне ўсяго гэтага штогадовыя заявы ўрада аб тым, што чарговы год будзе "вырашальным" і зменіць сітуацыю да лепшага, ужо не выклікаюць даверу ні ў кіраўнікоў гаспадарак, ні ў простых сялян.

Па перакананні дэпутатаў, асноўныя прычыны крызісу схаваныя ў неэфектыўным размеркаванні фінансавых сродкаў, адсутнасці рэформаў на вёсцы, жорсткім дзяржаўным рэгуляванні.

Працаўнікі вёскі апынуліся за рысай беднасці.

Сёлета сітуацыя яшчэ больш абвастрылася. Дэпутаты ў сваёй заяве сцвярджаюць, што графік вясенне–палявых работ сарваны.

Ігар Баслык, Валеры Фралоў, Уладзімір Рэзнікаў, Сяргей Скрабец, Іван Пашкевіч, Пётр Іваненка, Уладзімір Лукашэвіч, Уладзімір Парфяновіч звяртаюцца з патрабаваннямі да ўрада неадкладна накіраваць грошы, якія прадугледжаныя ў бюджэце вытворцам сельгаспрадукцыі, пагасіць запазычанасць па заработнай плаце, абавязаць перапрацоўчыя прадпрыемствы разлічыцца за здадзеную ім прадукцыю. Дэпутаты з групы "Рэспубліка" патрабуюць таксама вызначыць канкрэтныя тэрміны і формы рэфармавання сельскай гаспадаркі з улікам персанальнай адказнасці вышэйшых службовых асоб.

**Мікола ГАЙДУК.**




**Курачка ў гняздзе – яечка прывядзе. Вось толькі ці заплацяць за гэтае яечка курачцы – ніхто не ведае.** Фота IREX/ProMedia.

## Курсы валют НБ РБ

| | 3.04 руб. | 10.04 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2000,00 | 2006,00 |
| Еўра | 2166,70 | 2158,46 |
| Злоты | 490,95 | 502,35 |
| Літ | 627,64 | 625,12 |
| Расійскі рубель | 63,93 | 64,12 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1990/2005 | 1995/2010 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 2.04 | 9.04 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11890 | 11900 |
| Сасіскі, 1 кг | 4090 | 4090 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 780 | 780 |
| Грэчка, 1 кг | 1400 | 1400 |
| Цукар, 1 кг | 1140 | 1140 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | 1000 |
| Алей, 1 л | 1700 | 1700 |
| Маянэз, 200 г | 450 | 450 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2000 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 800 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 650 | 620 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 950 | 950 |
| Капуста, 1 кг | 1000 | 960 |
| Морква, 1 кг | 1000 | 1300 |
| Лімоны, 1 кг | 2400 | 2300 |
| Апельсіны, 1 кг | 1800 | 1750 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 600 | 700 |
| Смятана, 1 л | 1700 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1700 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | 1400 |
| Бульба, 1 вядро | 3600 | 3800 |
| Яблыкі, 1 кг | 950 | 1000 |

■ САЦЫЯЛЬНАЕ СТРАХАВАННЕ

# Дэкрэт №3 карысны толькі льготнікам

З прыняццем Дэкрэта №3 прэзідэнта РБ, які ўносіць змяненні ў дэкрэт аб прымусовым сацыяльным страхаванні індывідуальных прадпрымальнікаў, частка прадпрымальнікаў апынулася ў складаным становішчы: пенсійны фонд запатрабаваў ад іх уплаты страхавых узносаў заднім чыслом.

Нагадаем, што з 1 жніўня мінулага года ў Беларусі дзейнічае Дэкрэт №18 "Аб некаторых пытаннях сацыяльнай абароны грамадзян". Гэты нарматыўны акт стукнуў па беларускім малым бізнесе, мабыць, мацней, чым, напрыклад, усе разам узятыя перарэгістрацыі. Сутнасць новаўвядзення даволі-такі простая: індывідуальных прадпрымальнікаў абавязалі плаціць узносы у фонд сацыяльнай абароны ў суме не менш 36% пражытачнага мінімуму. Прычым незалежна ад таго мае ІП асноўнае месца работы ці не, атрымлівае прыбытак ці церпіць страты, ды і наогул займаецца ён гэтай прадпрымальніцкай дзейнасцю ці проста трымае пасведчанне "пра запас".

Бізнес адрэагаваў шматлікімі пратэстамі. Адмена злашчаснага дэкрэта стала адным з патрабаванняў бастуючых "чаўнакоў". Трэба сказаць, улады падаліся назад і стварылі рабочую групу па падрыхтоўцы змяненняў у дэкрэце з удзелам, дарэчы, і прадстаўнікоў Беларускага саюза прадпрымальнікаў. Акрамя таго, было аб'яўлена аб некаторым мараторыі на спагнанне плацяжоў у фонд сацыяльнай абароны да прыняцця новага нарматыўнага акта.

Дэкрэт №3 аб унясенні змяненняў у Дэкрэт №18 з'явіўся сёлета 27 студзеня і вызваліў ад уплаты ўзносаў даволі вялікую катэгорыю ІП. Гэта і прадпрымальнікі, якія маюць асноўнае месца работы, і "чаўнакі"-пенсіянеры, студэнты, а таксама тыя, хто знаходзіцца ў дэкрэтным водпуску. Гэтым жа катэгорыям бізнесменаў дэкрэт даў своеасаблівую індульгенцыю: з іх не павінны спаганяць запазычанасць і рознага роду штрафныя санкцыі па ўзносах, пачынаючы з 1 жніўня мінулага года. У логіцы чыноўнікам не адмовіш – раз вызвалілі ад неабходнасці плаціць узносы, вызвалілі і ад уплаты даўгоў, а таксама і штрафаў.

А вось для астатніх бізнесменаў ніякіх "індульгенцый" выпісана не было. Больш таго, "пенсійнае шчасце" стала для іх даражэй больш чым у 2 разы: калі раней стаўка ўзносаў складала 15% ад даходу, то цяпер усе 36%. А мінімальная сума засталася ранейшай – 36% бюджэту пражытачнага мінімуму. Плаціць жа па гэтых стаўках неабходна ўжо з 1 жніўня мінулага года – у Дэкрэце №3 нідзе не гаворыцца аб "дараванні" запазычанасцяў, як, дарэчы, і аб вызваленні ад штрафаў і розных пеняў.

Што ж тычыцца "маратарыю", то ён быў (калі наогул быў) усяго толькі вынікам вуснай дамоўленасці паміж чыноўнікамі і прадпрымальніцкімі саюзамі. А, як гаворыцца, слова да справы не прышыеш і фармальна крыніцай права, у нашай краіне, усё-такі з'яўляюцца нарматыўныя акты. Таму прадстаўнікам саюза прадпрымальнікаў у рабочай групе неабходна было паклапаціцца аб нарматыўным замацаванні нефармальных дамоўленасцяў. Толькі вось зроблена гэта, на жаль, не было – усё абмежавалася торгам па памерах стаўкі адлічэнняў ды пераможнымі рапартамі ў незалежнай і не вельмі прэсе.

Так што прадпрымальнікам цяпер застаецца толькі выплачваць даўгі і штрафы фонду сацыяльнай абароны ды выходзіць на вуліцы з патрабаваннямі адмяніць Дэкрэт №3. Толькі вось адмена Дэкрэта №3 азначае ўзнаўленне дзеяння ранейшай рэдакцыі Дэкрэта №18 з усімі выцякаючымі адсюль наступствамі.

**Сяргей БАЛЫКІН.**

## Вакансія – карэспандэнт

**Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" праводзіць конкурс на замяшчэнне вакантнай пасады карэспандэнта.**
Патрабаванні: уменне ўбачыць факт, працаваць са словам, камунікабельнасць, адказнасць, валоданне персанальным камп'ютэрам або жаданне яго асваення, імкненне удасканальваць свой творчы патэнцыял, вышэйшая адукацыя.
**Рэзюмэ з суправаджальным пісьмом дасылаць на паштовы або электронны адрасы газеты ці факсам да 30 красавіка.** Пры неабходнасці далейшых кантактаў рэдакцыя скантактуецца з патэнцыйнымі кандыдатамі.
222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а. Факс: 01773–69667, 53841.
Электронны адрас:
regionnews@promedia.by





# «Касіць» ад арміі не варта

**МАЛАДЗЕЧНА. За ўвесь час работы ваеннага камісарыяту праз яго прызвана больш за 30 тысяч грамадзян на ваенную службу. Больш за 320 чалавек удзельнічала ў баявых дзеяннях у Афганістане. І больш за 230 ваеннаабавязаных з запасу ліквідавалі наступствы Чарнобыльскай АЭС.**



**Маладзечанец Максім Жукаў атрымаў вышэйшую адукацыю і вырашыў ісці на службу ў Міністэрства ўнутраных спраў. Стан здароўя прызыўніка аглядае тэрапеўт Сняжана Савянок.** Фота Ірыны РАБУШКІ.

### І хлопцы, і дзяўчаты

Для кожнага мужчыны ваенкамат пачынаецца ў 17 гадоў. Менавіта ў гэтым узросце юнакоў прыпісваюць да прызыўнога ўчастка. Заводзяць асабістую справу на хлопца. Кожны абавязкова праходзіць медыцынскую камісію. У 18 гадоў выклікаюць на прызыўную камісію. Бяруць на службу ў армію да 27 гадоў. За больш старэйшымі прызыўнікамі, па словах ваеннага камісара **Ігара Арабея**, сочаць асабліва жорстка. Але канчатковы лёс прызыўніка вырашаюць дактары.

Старшы доктар медыцынскай камісіі гарадскога ваенкамата падпалкоўнік медыцынскай службы запасу **Сяргей Новік** зазначыў, што захворваемасць прызыўнікоў кожны год расце. Колькасць здаровых хлопцаў, якіх можна прызваць без абмежаванняў да ваеннай службы, складае прыкладна 12-13%. Праз ваенкамат прызываюцца хлопцы з Маладзечна і раёна. С.Новік гаворыць, што больш здаровыя па стане ўнутраных органаў — вясковыя, а псіхафізічна больш развітыя – гарадскія.

65% прызыўнікоў ад усёй колькасці прыгодныя да службы ў арміі. Але штогод працэнт змяншаецца. На гэтую лічбу ўплывае і тое, што на тэрыторыі горада знаходзіцца дзве спецшколы для дзяцей з захворваннем апорна-рухальнага апарату і вачэй. Дзеці вучацца з усёй Беларусі. Хлопчыкі ж усе роўна праходзяць праз Маладзечанскі ваенкамат.

Паколькі ў нас раўнапраўе, то і дзяўчаты могуць служыць у арміі. Для іх яна пачынаецца з 19 гадоў і да 35-і. Прыкладна 20 жадаючых прызываецца штогод. У жанчын абавязкова павінны быць адукацыя, спецыяльнасць. Але яны не павінны мець дзяцей. Не ведаю, роўныя гэта правы ці не. Але тое, што жанчыны не "косяць" ад арміі, у адрозненне ад мужчын, дакладна.

### І жартам, і ўсур'ёз

Начальнік аддзялення прызыву на ваенную службу **Валянцін Арэхаў** ведае, як "косяць" ад службы. Расказвае, што прызыўнікі, калі не хочуць ісці ў армію, прыкідваюцца вельмі хворымі. Скардзяцца на траўмы галавы, што мочацца ў ложак па начах. Але дактары рэагуюць на кожную скаргу.

Хворы дык хворы – варта лячыцца. Аднойчы прызыўнік нагавварыў, што пакутуе на псіхічныя расстройствы. Прыйшлося яму ляжаць тры тыдні ў рэспубліканскай псіхіятрычнай бальніцы ў Навінках, бліжэй пазнаёміцца з гэтымі расстройствамі. Урэшце выпісаўся з дыягназам: псіхічна здаровы. Як кажа В.Арэхаў, "закасіць на галаву" не атрымалася. Цяпер гора-прызыўнік служыць у чыгуначных войсках у Слуцку.

Быў хлопец, які на нетрыманне мачы скардзіўся. Паклалі яго ў гарадскую бальніцу. Праўда, ложак быў мокры. Правялі экспертызу. Аказалася, ён сабе гарбату наліваў. Гэтай вясной хлопец папоўніць армейскія рады. А яшчэ адзін прызыўнік сказаў, што наркатычныя сродкі ўжывае. Яго абследавалі ў гарадскім наркалагічным дыспансеры. Ніякі дыягназ у сувязі з гэтым не пацвердзіўся. Сёлетняй вясной ён таксама пойдзе ў армію. І дакладна, што ў элітныя войскі не трапіць.

А то было тры разы хлопца ў армію адпраўлялі, тры разы ён праводзіны спраўляў. Кожны раз яго праводзіла вялікая грамада п'яных сваякоў, радні, сяброў ды яшчэ з гарманістам. П'яны быў і прызыўнік. Ледзь дачакаліся ў ваенкамаце, пакуль ён цвярозым прыйдзе.

А калі ўсур'ёз, то ў апошні час сярод прызыўнікоў стала больш венерычна хворых. Такіх накіроўваюць на лячэнне, і, канешне, ім даецца адтэрміноўка. Шмат хто "робіць" яе сам сабе. Не з'яўляецца па павестцы ў ваенкамат і ўвогуле з'язджае за мяжу. Мяркуюць, што, калі ім споўніцца 27 гадоў, вернуцца і ўсё будзе добра. Хлопцы памыляюцца, бо за парушэнне закону могуць быць пакараны.

Таму, напэўна, лепш усё ж такі пайсці ў салдатчыну ў Валожынскую, Івянецкую, Маладзечанскую, Красненскую, Смаргонскую вайсковыя часці, куды часцей за ўсё і адпраўляюць нашых сыноў і мужоў.

**Ірына РАБУШКА.**

■ **ДАВЕДКА**

## Учора і сёння ваенкамата

**МАЛАДЗЕЧНА. 85 гадоў таму з'явіліся ваенныя камісарыяты. 8 красавіка 1918 года Дэкрэт Савета Народных Камісараў РСФСР зацвердзіў новы апарат мясцовых органаў ваеннага кіравання ў асобе валасных, губернскіх і акруговых камісарыятаў па ваенных справах.**

У адпаведнасці з указаным актам на камісарыяты па ваенных справах ускладаліся мерапрыемствы па ўліку прыгоднага да ваеннай службы насельніцтва, яго прызыву, фарміраванні Узброеных Сіл, усеагульнае навучанне рабочых, кіраванне войскамі, прызначанымі для абслугоўвання мясцовых патрэб і задавальнення матэрыяльных патрэб ваеннага забеспячэння.

Маладзечанскі райваенкамат сфарміраваны на базе ваеннага камісарыяту, перадзенага з сяла Хадыні Смаленскай вобласці ў складзе 11 ваеннаслужачых ў лютым 1944 года. Першым ваенным камісарам быў падпалкоўнік Мікалай Громаў.

Айчынная вайна склала асноўны этап у развіцці ваеннага камісарыяту. Ваенкамат праводзіў мабілізацыю людзей і транспартных рэсурсаў на вызваленай тэрыторыі і папаўненне імі новых вайсковых часцей, адшукваў людскія рэзервы і накіроўваў іх у войска і на працу ў прамысловасць, адводзіў людзей з прыфрантавой паласы (раёнаў), забяспечваў інвалідаў вайны і сем'і ваеннаслужачых пенсіямі і дапамогамі, праводзіў мерапрыемствы па падрыхтоўцы рэзерваў у сістэме ўсеагульнага навучання і спецыялістаў у вучэбнай сетцы грамадзянскіх ведамстваў.

У абсалютных лічбах Маладзечанскі ваенны камісарыят у гады заканчэння вайны паставіў 700 коней, прызваў у войска 17 тысяч ваеннаабавязаных.

За паспяховае выкананне заданняў урада і ваеннага камандавання 7 ваенных камісараў Маладзечанскага АГВК былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Ваенны камісарыят прымаў актыўны ўдзел у выкананні складанай і небяспечнай работы па знішчэнні звыш 700 выбуханебяспечных рэчываў, якія засталіся пасля Айчыннай вайны на тэрыторыі горада і раёна.

Цяпер у ваенкамата 7 асноўных задач. Даць на ваенны час, калі ён настане, людзей і тэхніку. Прызыў на тэрміновую вайсковую службу. Ажыццяўленне воінскага ўліку грамадзян, усёй тэхнікі народнай гаспадаркі. Цяпер на ўліку стаіць 29 тысяч ваеннаабавязаных і 6,5 тысячы адзінак тэхнікі. Яшчэ адна з задач — сацыяльна-прававая абарона грамадзян, звольненых з ваеннай службы. Такіх звыш 500 чалавек. У задачы ваенкамата ўваходзіць і ўлік матэрыяльных рэсурсаў, якія могуць быць выкарыстаны ў ваенны час. Падрыхтоўка да тэрытарыяльнай абароны ў пагражаемы перыяд. Ваенны камісарыят займаецца і ваенна-патрыятычным выхаваннем насельніцтва.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ **ПАЛЯВАЯ ПОШТА**

## Вестачкі ад салдат з Маладзечна



**Юрый Бібік, камандзір аддзялення, старшы майстар. Валожынскі раён, в. Сівіца, вул.Партызанская, д.92.**

— Засталося служыць 9 месяцаў. У звальненні не хаджу. Тэлевізар у дзень па 20 хвілін гляджу. Па выхадных і газеты ёсць час пачытаць. На дыскатэку схадзіць хочацца. І торта з'есці.

Мама, не хварэй. Прывітанне і старэйшаму брату. Жадаю сямейнага дабрабыту. А сябар Віталік, які хутка пойдзе ў армію, няхай бярэ з мяне прыклад і добра служыць.



**Юрый Капцюг, сяржант, старшы майстар, камандзір аддзялення роты тэхнічнага забеспячэння. Маладзечна, вул. Вялікасельская, 241.**

— Адслужыў 15 месяцаў. Хачу застацца служыць па кантракту. У мяне ўсё добра. Кормяць нармальна. Катлеты даюць 2 разы на тыдзень – у панядзелак і чацвер.

Прывітанне бацькам. Жадаю моцнага здароўя. І Танюшцы. Чакай! Хутка вярнуся. Сумую.



**Віктар Кушч, справавод. Маладзечна, вул. Маўчанскага, д. 22-а, кв.10.**

— Хутка будзе 3 месяцы, як служу ў арміі. Час ляціць хутка. Чытаю фантастыку ў нашай бібліятэцы. Нямецкую мову вывучаю. Павышанай зарплаты – 14 тысяч – хапае на 2 тыдні. У магазіне куплю знакі на форму і штo-небудзь салодкае. Сок даюць піць кожны вечар па 50 грамаў.

Прывітанне маці, бацьку, брату і яго сям'і, былой дзяўчыне Вользе. Здароўя і веры ў мяне. Буду старацца.



**Аляксандр Касцюкевіч, начальнік майстэрні тэхнічнага абслугоўвання. Маладзечна, вул.Ф.Скарыны, д.9, кв.39.**

— Служу 14 месяцаў. Хачу застацца. Шкада, што на вучэнні мала ездзім.

У мінулыя выхадныя рэпеціравалі спектакль. Спаць кладуся ў 10 гадзін вечара. Дом сню. Калі нічога не пераменіцца, паслязаўтра прыйду дамоў.

Прывітанне бацькам і поспеху ў вучобе сябрам.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ МОВАЙ ЛІЧБАЎ

# Пра гісторыю «РГ»

**На мяжы красавіка і мая наша газета адзначыць сваё 8–годдзе.**

Увесь гэты час мы стараліся гутарыць са сваім чытачом аб тым, што яго хвалюе, аператыўна даваць інфармацыю аб падзеях у рэгіёне. А як на самой справе, калі гэта паказаць у лічбах, мы раслі? Як мяняўся наш тыраж?

**Тыраж «Рэгіянальнай газеты» па стане на 1 студзеня**




### Тыраж

Тыраж – адзін з асноўных пакалзчыкаў запатрабаванасці выдання. Ён паказвае не толькі фінансавыя або іншыя эканамічныя магчымасці выдання, але і яго папулярнасць, карыснасць. Тым больш, калі гэта выданне прадаецца не па наўмысна заніжаных цэнах. У графіку паказаны тыражы "Рэгіянальнай газеты" на 1 студзеня кожнага года нашай гісторыі. Свой першы новы год газета сустрэла з добрым тыражом 8000 экземпляраў. Год працы, пошуку свайго твару, прыцягнення пастаянных аўтараў, год праверкі ідэй і эксперыментавання, год, калі эфект навізны ўжо не быў аргументам у дыялогу з чытачом (практыка паказвае, што большасць выданняў некалькі першых месяцаў, часам да году, росцяць тыраж на так званым эфекце навізны – калі чытача можна зацікавіць нават проста новай назвай газеты). Тыраж газеты на пачатак 1997 года склаў 7000 экземпляраў. 7000 чалавек, а большасць з іх былі нашымі падпісчыкамі, сталі па–сапраўднаму нашымі пастаяннымі і трывалымі сябрамі і аднадумцамі.

Пасля гэтай адзнакі два гады газета набывала папулярнасць, аўтарытэт. Рос тыраж. Толькі за 1997 год ён вырас на 2450 асобнікаў і стаў роўным 9450 экземплярам. Яшчэ адзін год – і газета займела абсалютны рэкорд свайго тыражу, стаўшы на той час самым масавым выданнем у рэгіёне. Тыраж стаў роўным 11 тысячам 250 экземплярам.

Наступствы расійскага крызісу ў поўнай меры газетная індустрыя адчула ў канцы 1999 года, калі паўсюднай з'явай стала рэзкае падзенне тыражоў, закрыццё па фінансавых прычынах многіх, часам у недалёкім мінулым магутных выданняў. Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты", а сення гэта можна сказаць упэўнена, адэкватна адрэагавала на сітуацыю, не стала спрабаваць выплыць на ранейшых цэнах на газету – гэта быў бы крок у нікуды. Тым больш, у газеце прытрымліваліся пазіцыі – калі мы прапануем цікавыя і апаратыўныя навіны – іх будуць купляць і за большыя грошы. У гэты час разам з істотным, у некалькі разоў, павышэннем паштовых тарыфаў мы істотна павысілі падпісныя цэны.


Рэгіянальная газета
Ганчарных спраў майстры

З гэтага моманту структура распаўсюджвання газеты памянялася: абсалютная большасць тыражу (ад 70 да 75 працэнтаў) цяпер распаўсюджваецца ў розніцу – праз кіёскі "Белсаюздруку" і іншымі спосабамі. 1 студзеня 2000 года мы сустрэлі з тыражом 7100 экземпляраў. Ад гэтага часу пачаўся новы этап у нашым развіцці: тыраж рос павольна, але ўпэўнена. 2002 год даў вельмі добры прырост нашых чытачоў. А на мяжы 2002–га і 2003–га гадоў мы зноў пераскочылі магічную адзнаку ў 10000 асобнікаў. У красавіку тыраж газеты быў больш за 10700 экземпляраў. Многія даследчыкі рынку СМІ пры падліку сапраўднай чытацкай аўдыторыі карыстаюцца вельмі простай, але праверанай методыкай. Памнажаюць тыраж газеты на каэфіцыент 4. У сярэднім столькі чалавек чытае адзін экземпляр газеты. Калі паследаваць гэтай методыцы, то наша чытацкая аўдыторыя набліжаецца сёння на адзнакі ў 45 тысяч чалавек.

Напярэдадзе сезонны спад тыражоў усіх газет, выкліканы садова–агароднымі клопатамі нашых землякоў. Але ў рэдакцыі ёсць цвёрдая ўпэўненасць у хуткім апанаванні наступнага рубяжу – тыражу ў 11 тысяч экземпляраў і паўтарэнні абсалютнага рэкорду тыражу – 11 тысяч 250 экземпляраў. Але гэта будзе проста чарговая вяршыня ў нашым альпіністкім марафоне, які мы праходзім у адной звязцы з чытачом.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ, галоўны рэдактар "Рэгіянальнай газеты".**

# Прызы ад газеты!

**Дарагія чытачы, раскажыце нам пра сябе, чым цікавіцеся, і мы зробім усё, каб стаць яшчэ бліжэй. Калі ласка, адпраўце гэтую анкету ў рэдакцыю.**

Калі вы жывяце ў Маладзечне , Смаргоні, Вілейцы, Мядзеле, Валожыне і адпаведных раёнах, то вашая анкета будзе дастаўленая паштальёнамі пошты ў рэдакцыю нават без канверта – дастаткова яе запоўніць, выразаць з газеты, скласці і кінуць у паштовую скрыню.
Чытачоў з іншых раёнаў мы просім накіроўваць анкету на адрас:
222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а, "Рэгіянальная газета".
Сярод тых, хто адказаў, будуць разыграныя прызы: дзесяць фірменных маек ад "Рэгіянальнай газеты". Вынікі конкурсу будуць аб'яўленыя ў газеце за 2 мая.

**Для ўдзелу ў розыгрышы запоўніце, калі ласка, клетачкі шыфравага ключа аднолькавымі 20-разраднымі лічбамі.**

Шыфравы ключ высылаецца ў рэдакцыю (пры выпадзенні выйгрышу на гэты ключ мы аб'явім праз газету пераможцу, назваўшы лічбы ключа з заштрыхаванай зоны). Пераможцу дастаткова будзе назваць для атрымання прыза першую частку ключа.
Шыфравы ключ – любы 20-разрадны лік – запоўніце і пакіньце ў сябе.

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

------ Лінія адрэзу ------

**Той самы шыфравы ключ**
(запоўніце і адашліце разам з анкетай у рэдакцыю)

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

## Анкета

1. Як часта вы чытаеце нашу газету (падкрэсліце): кожны нумар; 1–2 разы на месяц; ад выпадку да выпадку?
2. Ці даўно вы знаёмыя з газетай (падкрэсліце): не больш за год; ад аднаго года да трох; больш за тры гады?
3. Што вас найбольш цікавіць у газеце (можаце падкрэсліць некалькі адказаў або дадаць свой): навіны; матэрыялы на культурныя тэмы; на гістарычныя тэмы; расказы пра людзей; матэрыялы на спартыўныя тэмы; фота; гараскоп; рэклама і аб'явы; віншаванкі і рубрыка знаёмстваў; праграма тэлебачання?
4. Вашая любімая рубрыка ____
5. Ваш любімы аўтар ____
6. Якія тэкставыя аб'явы вас цікавяць найбольш (падкрэсліце рубрыку): транспарт; нерухомасць; паслугі; рознае?
7. Вы размяшчалі ў нашай газеце сваю аб'яву (падкрэсліце): толькі аднойчы; некалькі разоў; не размяшчаў.
8. Вы скарысталіся прачытанымі ў газеце аб'явамі (падкрэсліце): толькі аднойчы; некалькі разоў; ні разу.
9. Што не падабаецца ў газеце? ____
10. Чаго газеце не хапае? ____
11. Якія новыя рубрыкі вы хацелі б убачыць на старонках нашай газеты?
12. Пра што б вы хацелі прачытаць у наступным нумары?
13. Ваша думка: што можа зрабіць рэдакцыя дзеля таго, каб газета стала больш прыцягальнай?
14. Колькі чалавек, акрамя вас, прачытае гэту газету? ____
15. Вы (падкрэсліце) падпісаныя на газету; купляеце ў кіёску "Белсаюздруку"; купляеце не ў кіёску "Белсаюздруку"; бераце ў суседзяў (знаёмых, родных і г.д.); чытаеце экземпляр, выпісаны на рабоце?
16. (Калі вы купляеце газету ў розніцу). Чаму вы купляеце газету, а не падпісваецеся?
17. На вашу думку, цана газеты (падкрэсліце): нізкая; прымальная; дастаткова высокая; вельмі высокая?
18. Ваш узрост (падкрэсліце): да 18 год; ад 18 да 25 год; ад 25 да 45 год; ад 45 да 60 год; больш за 60 год.
19. Пол (падкрэсліце): мужчынскі; жаночы.
20. Адукацыя (падкрэсліце): ніжэй за сярэднюю; сярэдняя або сярэднетэхнічная; сярэдняя спецыяльная; вышэйшая.
21. Род заняткаў ____
22. На вашу думку, даход у вас (вашай сям'і) (падкрэсліце): нізкі; хутчэй нізкі, чым сярэдні; сярэдні; хутчэй сярэдні, чым дастаткова высокі; дастаткова высокі; высокі.
23. Ці ёсць у вас (у вашай сям'і) аўтамабіль (падкрэсліце): так; не?
24. Вы збіраецеся купіць аўтамабіль або памяняць той, што ёсць, на лепшы (падкрэсліце): так; не?
25. У вашым доме або ў вас ёсць (падкрэсліце): мікрахвалевая печ, камп'ютэр, пральная машына–аўтамат, газавая пліта "Гефест", мабільны тэлефон?
26. Вы збіраецеся купіць (падкрэсліце): мікрахвалевую печ, камп'ютэр, пральную машыну–аўтамат, газавую пліту "Гефест", мабільны тэлефон?
27. Вы шукаеце работу або хочаце памяняць сваю работу на лепшую (падкрэсліце): так; не?
28. Ці любіце вы падарожнічаць (падкрэсліце): так; не?
28. Вы жывяце (падкрэсліце): у раённым цэнтры, у раёне?

Дзякуй, што вы адгукнуліся на нашу анкету.

Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты".

# Прызы ад газеты!

**Дарагія чытачы, раскажыце нам пра сябе, чым цікавіцеся, і мы зробім усё, каб стаць яшчэ бліжэй. Калі ласка, адпраўце гэтую анкету ў рэдакцыю.**

**Калі вы жывяце ў Маладзечне , Смаргоні, Вілейцы, Мядзеле, Валожыне і адпаведных раёнах, то вашая анкета будзе дастаўленая работнікамі пошты ў рэдакцыю нават без канверта – дастаткова яе запоўніць, выразаць з газеты, скласці і кінуць у паштовую скрыню. Чытачоў з іншых раёнаў мы просім накіроўваць анкету на адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а, "Рэгіянальная газета". Сярод тых, хто адказаў, будуць разыграныя прызы: дзесяць фірменных маек ад "Рэгіянальнай газеты". Вынікі конкурсу будуць аб'яўленыя ў газеце за 2 мая.**

– – – – – – – – – – – – – – Лінія адрэзу – – – – – – – – – – – – – –

# Анкета

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

Рэгіянальная газета

**Вялікі Гасцінец, 68а**

**222310, Маладзечна**

■ МЕРКАВАННЕ

# «РГ» купляюць усе

**МАЛАДЗЕЧНА. Як ацэньваюць нашую газету тыя, хто яе прадае? Гутарым з прадаўцом газет Ліліяй Шаломскай, якая працуе ў кіёску №15 Мінскаблсаюздруку, які стаіць побач з кінатэатрам "Радзіма".**

– У кіёску працую трэці год, але "Рэгіянальную газету" ведаю даўно, калі цікавілася ёй як радавы чытач. Цяпер вашую газету чытаю і па рабоце – пакупнік павінен ведаць, што ёсць цікавага ў кожнай газеце – і таму, што хачу ведаць мясцовыя навіны.

**– З чаго пачынаеце чытаць "РГ"?**

– З апошняй старонкі, дзе стаіць фотаапытанне. Часам сустракала знаёмых: метадыста з кінатэатра "Радзіма", прадаўца газет, дачку знаёмай.

**– Што падабаецца ў газеце?**

– З задавальненнем чытаю культурна-гістарычныя матэрыялы, што звычайна знаходзяцца на 5-8 старонках. Цікава ведаць гісторыю касцёла, што стаіць побач, іншых гістарычных помнікаў, мясцін, падзей.

Добра, што газета беларускамоўная. Хоць сама дрэнна размаўляю па-беларуску, бо заканчвала рускамоўную школу і далей вучылася па-руску, дзеці таксама слаба валодаюць моваю па той жа прычыне. Але чытаць пабеларуску падабаецца, мову разумею.

**– Пакупнік "РГ", хто ён?**



**Ала Борыс, якая працуе ў Маладзечанскім кіёску Мінаблсаюздруку №5, пачынае чытаць "Рэгіянальную газету" з 1-й старонкі. Падабаюцца ёй культурна-гістарычныя матэрыялы. Асабліва ёй запомнілася старонка пра Юрыя Антонава і "Ліст Агінскага сыну Ірэніушу".**

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

– Купляюць газету і мужчыны, і жанчыны. Асноўнай часткі пакупнікоў ад 20 да 60 гадоў. Хаця купляюць газету і маладзейшыя, і пажылыя людзі. "РГ" купляюць усе, у вашай газеты ёсць свой пакупнік. І гэта нягледзячы на асартымент друкаванай прадукцыі, які павялічваецца з кожным годам.

Юрый КАРПІЦКІ.

■ КОНКУРСЫ

# «Вільюша» – наша марка

**ВІЛЕЙКА. Падведзеныя вынікі конкурсу на слоган і гандлёвую марку Вілейскага гарадскога малочнага завода, якія абвяшчаўся ў нашай газеце 21 лютага.**

Першае месца за прапанаваную гандлёвую марку "Вільюша" заняла наша чытачка з Вілейкі **Людміла Каспяровіч**. Яна атрымае 100 тысяч рублёў ад гарадскога малочнага завода.

Пяцідзесяцьцю тысячамі рублёў узнагароджваецца віляйчанін **Юрый Мамчыц** за слоган "Усё натуральнае – цэны рэальныя".

Трэцяе месца заняла віляйчанка **Жанна Сцяпанава** за прапанаваную гандлёвую марку "Родны падворак". Ёй належыць атрымаць грашовы прыз у памеры 30 тысяч рублёў.

Яшчэ дзесяць чытачоў "Рэгіянальнай газеты", якія прынялі ўдзел у конкурсе, заахвочваюцца прызамі – "малочнымі карзінамі" з высакаякаснымі прадуктамі ад Вілейскага гарадскога малочнага завода. Гэта маладзечанцы **Ірына Сарока, Ксенія Субач, Жанна Гарун**, віляйчане **Мікалай Якавец, Валера Броўка, Ларыса Шавель, Алеся Кляўда, Таццяна Сівец**, жыхар вёскі Асіпавічы Вілейскага раёна **В.М.Усціновіч** і **Алена Ярмак** з вёскі Завельцы Астравецкага раёна.

Усе даведкі аб атрыманні прызоў вы можаце атрымаць па вілейскім тэлефоне 8–01771–53184.

Віншуем пераможцаў!

Чытайце "Рэгіянальную газету" і прымайце ўдзел у конкурсах, якія абвяшчаюцца на нашых старонках.

Аддзел інфармацыі "РГ".

■ ПРА ШТО ПІСАЛА "РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА"

## Будуем царкву. Жывём у згодзе

**АСТРАВЕЦ. Менавіта так могуць сказаць сотні жыхароў Астравеччыны, прыхаджан адносна нядаўна зарэгістраванага прыходу рускай праваслаўнай царквы.**

У гэтым краі заўсёды жылі праваслаўныя. Не столькі, колькі каталікоў, і ўсё ж. Але свайго храма не мелі. І вось два гады таму выпускнік семінарыі ў Жыровічах айцец Павел, ураджэнец суседняй Смаргоншчыны, прыняў новы прыход. Пакуль вернікі моляцца ў прыстасаваным пад царкву доме, але ўжо закладзены будынак храма. Цяжка, ды дапамагаюць раённыя ўлады, арганізацыі. Ну хаця б такія, як МПМК-158. Нулявы цыкл адолелі. Глядзіш – праз некаторы час да добрага дзесятка касцёлаў на Астравеччыне дадасца яшчэ адна святыня – будыніна праваслаўнай царквы.

Антон ІВАШКЕВІЧ.

"РГ" №1 ад 28 красавіка 1995 года.

## Імя героя – вядомае

**ВІЛЕЙКА. У вёсцы Іжа ледзь не згарэў 4-гадовы хлапчук, які застаўся сам-насам у кватэры двухпавярховага дома.**

Пажар пачаўся з-за няспраўнага тэлевізара. Каб не вадзіцель ЗІЛа, які праязджаў міма, невядома, чым бы гэта скончылася. Шафёр спыніўся, не раздумваючы, кінуўся ў кватэру, адкуль праз некаторы час вынес хлопчыка. Імя выратавальніка да нядаўняга часу было невядомым. Цяпер жа паведамляем: **Анатоль Ардзяка**, шафёр з Вілейскага РВА "Сельгасхімія".

Аддзел інфармацыі.

"РГ" № 14 (50) ад 5 красавіка 1996 года.

# Ужо не мястэчка, пакуль не горад

**І ўсё-такі шкада, што ў 20-30-я гады мінулага стагоддзя на ўсходняй частцы Беларусі з афіцыйнай назвы зніклі мястэчкі: адныя з іх былі ператвораны ў гарады, што заканамерна, а другія – у вёскі. У Заходняй Беларусі мястэчкі праіснавалі да 1939 года – прыходу сюды Чырвонай Арміі. Не стала і мястэчка Ілья, хоць старажылы па сённяшні дзень лічаць яе мястэчкам.**

А чаму б гэтую назву не захаваць? Мястэчка, канешне, – не горад. Яно адрознівалася колькасцю насельніцтва, адсутнасцю абаронных збудаванняў, аграрнымі рысамі. Аднак і вёскай мястэчка не назавеш, бо тут развіваліся гандаль і рамёствы як асноўны від занятку насельніцтва. І ўсё ж многія местачкоўцы займаліся земляробствам.



**Касцёл у Ільі.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Ілья сёння

На сённяшні дзень Ілья – цэнтр аднайменнага сельсавета і калгаса "Абадоўцы". У ёй налічваецца паўтары тысячы жыхароў і 520 двароў. Ілья – гэта сельскагаспадарчы тэхнікум, сярэдняя школа, вучэбна-вытворчы камбінат, музычная школа, дзіцячыя яслі-сад, Дом быту, паштовае аддзяленне, 4 магазіны.

У дружбе і згодзе жывуць вернікі розных канфесій. Праваслаўны храм святога прарока Ільі, пабудаваны ў 20-х гадах мінулага стагоддзя, з'яўляецца помнікам драўлянай архітэктуры. Дзейнічае і касцёл (таксама архітэктурны помнік), пабудаваны з цэглы і вапнавых блокаў.

Калі ўжо загаварылі пра помнікі архітэктуры, то нельга абмінуць аднапавярховы цагляны будынак былой гасцініцы (цяпер гэта жылы дом), пабудаваны як і касцёл на мяжы XIX-XX стагоддзяў.

У Ільі – багатая гісторыя, пра якую можна даведацца з энцыклапедычных даведнікаў, архіўных матэрыялаў, публікацый у мясцовай прэсе, з расказаў саміх ільянцаў. Узбагаціць памяць звесткамі аб мінуўшчыне Ільі вам дапаможа і гісторыка-краязнаўчы музей, які ўжо больш за 10 гадоў разгарнуў свае экспазіцыі ў сярэдняй школе.

– Так, музей штогод багацее, – гаворыць заўзяты гісторык-краязнаўца дырэктар школы, ён жа загадчык музея, **Ігар Юшко**. – Асаблівую ўвагу надаём перыяду другой сусветнай вайны, якая для савецкага народа стала Вялікай Айчыннай.

## Гісторыя Ільі

Паслухаем, што Ігар Аляксандравіч раскажа пра гісторыю Ільі:

– Праз два гады споўніцца 530 гадоў нашай вёсцы. Менавіта ў 1475 годзе яна ўпершыню ўпамінаецца як двор дворнага маршалка, браслаўскага намесніка Багдана Андрушкавіча Саковіча. А хто такі дворны, або надворны, маршалак? Гэта ўраднік у Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім у XV-XVIII стагоддзях, які загадваў гаспадарчымі справамі манаршага двара. І не проста загадваў – ён быў намеснікам маршалка вялікага, гэта значыць, найвышэйшага ўрадніка Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, уваходзіў у склад сената. Дык вось: дворны маршалак Багдан Саковіч і завалодаў Ільянскім дваром. Праз 15 гадоў ён памёр, і ўладальніцай Ільі стала яго дачка Альжбета. А ўжо ў 1544 годзе Ілья дасталася Альжбецінай унучцы Ганне Забярэзінскай, а роўна праз 20 гадоў, у 1564 годзе, ільянская сядзіба дасталася сыну Ганны П.Збаражскаму.

Ігар Аляксандравіч раіць запомніць гэты год, бо менавіта тады разам з дваром і валасцю ўпамінаецца Ілья як мястэчка (ад слова "места"). І калі ўжо адзначаць юбілей Ільі не як першае ўпамінанне аб ёй як назве, а як мястэчка, то гэтая дата наступіць налета.

У далейшым, ад залежнасці ад таго, хто з кім абменьваўся маёнткамі, хто каму іх прадаваў або дарыў, з 1582 года Ілья належала розным уладальнікам. У прыватнасці, у 1792 годзе шэф Беларускага гусарскага палка ў расійскім войску Я.М.Салагуб (дарэчы, пры ім ужо ў маётку існавала вядомая на ўсім наваколлі гута – ад нямецкага Hutte – шклозавод) прадаў Ілью вялікаму падскарбію ВКЛ, кампазітару і літаратару Міхалу Клеафасу Агінскаму. Аднак пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) за ўдзел у паўстанні 1794 года не толькі Ілья, але і ўсе іншыя маёнткі М.К.Агінскага былі канфіскаваныя ў расійскі скарб, і ўладальнікамі Ільі адпаведна былі фельдмаршал граф М.І.Салтыкоў, генерал-маёр Л.І.Здзяхоўскі, мінскі губернатар маршалак Ю.Валадковіч і С.Радзішэўскі. І толькі ў 1860 годзе Ілья стала скарбовым маёнткам з мястэчкам і чатырма вёскамі ў Вязынскай валасці. У час паўстання 1830-1831 гадоў мястэчка было разрабавана царскімі войскамі.

Дасталося мястэчку і пазней, калі ільянцы падтрымалі паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Удзячныя нашчадкі ўжо за польскімі ўладамі героям таго часу ўзвялі мемарыяльны 20-метровы помнік-капліцу, на адкрыцці якога ў 1930 годзе прысутнічаў прэзідэнт Польшчы Ігнацы Масціцкі. На вялікі жаль, у перыяд таталітарызму, калі разбураліся рэлігійныя храмы, у 1954 годзе помнік быў зруйнаваны з зямлёй.

## Вялікая Айчынная вайна

Асабліва жорсткія выпрабаванні народам Беларусі давялося вынесці падчас нямецка-фашысцкай акупацыі. Дастаткова сказаць, што роўна праз тры гады (3 ліпеня 1941 года гітлераўцы ўварваліся ў Ілью і 3 ліпеня 1944 года пакінулі яе) у выніку дзвюх масавых расправаў ад рук акупантаў загінула 750 чалавек. Шмат дамоў згарэла. Але ж нельга скажаць праўду, як гэта зроблена ў артыкуле пра Ілью (Беларуская энцыклапедыя), дзе напісана, што "тараючыся сцерці Ілью з твару зямлі", фашысты спалілі яе. Больш правільна сказаць: хацелі сцерці з твару зямлі, ды не паспелі.

У 1957 годзе на магіле ахвяр фашызму пастаўлена стэла. Чатырма гадамі раней пастаўлены абеліск на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. І стэла, і абеліск ахоўваюцца дзяржавай як гістарычныя помнікі.

Беларускі народ ніколі не быў пакорлівым. І незалежна ад таго, адкуль ішоў вораг – з захаду ці ўсходу, ён заўсёды сустракаў адпор з зброяй у руках узнімаўся за сваю незалежнасць. Сведчаннем таму з'яўляецца дзейнасць падпольных арганізацый і партызанскіх атрадаў у перыяд нямецка-фашысцкай акупацыі. Ужо восенню 1941 года ў Ільянскім раёне распачалі барацьбу з ворагам разрознены партызанскія групы Аляксандра Запявалава і І.Іванова. У красавіку 1942 года іх групы аб'ядналіся ў адну пад кіраўніцтвам першага. У чэрвені таго ж года група ўлілася ў толькі што створаны дыверсійна-разведвальны атрад імя С.Будзённага, які да снежня 1943 года дзейнічаў самастойна. І ўжо калі на базе гэтага атрада была створана аднайменная брыгада, то атрад у складзе брыгады ўжо дзейнічаў у Куранецкім, Мядзельскім, Смаргонскім і Маладзечанскім раёнах.

Больш падрабязна варта спыніцца на брыгадзе імя М.Фрунзе. Гэта, пасля брыгады імя К.Ракасоўскага, самая буйная з брыгад, што дзейнічалі ў Вілейскай вобласці: на дзень злучэння з Чырвонай Арміяй 1 ліпеня 1944 года ў ёй налічвалася 844 партызаны, з іх 525 беларусаў. Калі ўлічыць, што ў партызанскія атрады з мясцовага насельніцтва ўліваліся і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, то можна зрабіць выснову: партызанскія брыгады Беларусі фарміраваліся ў асноўным за лік свайго народа.

Па ўспамінах камісара брыгады імя М.Фрунзе Івана Міроненкі, народныя мсціўцы падтрымлівалі цесную сувязь з падпольшчыкамі Ільі. Яны, пісаў Іван Іосіфавіч, "паспяхова вялі работу па разлажэнні ільянскага гарнізона ворага, і 23 паліцаі перайшлі да партызан. Падпольшчыкі здабывалі для народных мсціўцаў паперу, медыкаменты, прадукты. Члену падпольнай арганізацыі А.В.Смірнову ўдалося ўладкавацца на работу на нямецкі прадуктовы склад, і ён пераправіў у лес вялікую колькасць мукі, солі, цукру".

Брыгада імя М.Фрунзе, па сутнасці, была інтэрнацыянальнай. У ёй, акрамя беларусаў, рускіх і украінцаў, ваявалі 41 прадстаўнік іншых нацыянальнасцей. Дзякуючы падпольнаму друку, вуснай агітацыі і прапагандзе сувязных і падпольшчыкаў да фрунзенцаў прыбыло больш за 20 чэхаў і славакаў, гвалтоўна мабілізаваных у гітлераўскую армію. Робячы засады паблізу варожых гарнізонаў Ільі, Раёўкі, Абадоўцаў, асецін Чочыеў разам з беларусам Мацвеевым, рускім Маштаковым, туркменам Муратам Іамудам знішчылі дзесяткі фашысцкіх салдат, афіцэраў, паліцэскіх.

Шмат подзвігаў на тэрыторыі Ільянскага раёна здзейснілі фрунзенцы, як і байцы іншых брыгад. І пра ўсё гэта можна даведацца ў гісторыка-краязнаўчым музеі сярэдняй школы.

## Вілейшчына літаратурная

А ў суседнім пакоі размешчаны не менш цікавы музей "Вілейшчына літаратурная", які летась адзначыў сваё 10-годдзе. У музеі сабраныя багацейшыя дакументы і матэрыялы пра паэтаў і празаікаў, з чыімі імёнамі звязаная наша зямля. Адны тут нарадзіліся (Адам Гурыновіч, Аляксандр Уласаў, Іван Лашутка, Уладзімір Дубовік, Тамара Пяркоўская і іншыя), другія так ці інакш звязалі свой лёс з Вілейшчынай (Змітрок Бядуля, Янка Купала, Максім Танк, Наталля Арсеннева, Ганна Новік, Міхась Машана, Алесь Дубровіч, Алесь Салавей, Мікола Кутас, польская пісьменніца Эмілія Кунавіч і іншыя).

Пра кожнага з іх загадчыца музея (яна ж і настаўніца СШ) **Роза Шэрая** можа расказваць цікава, з захапленнем і даволі доўга. Ганарыцца яна, што рашэннем Нацыянальнага аргкамітэта па падрыхтоўцы да сустрэчы трэцяга 1000-годдзя і святкавання 2000-годдзя хрысціянства музей ўзнагароджаны памятным знакам "2000 год хрысціянству".

Задума Розы Канстанцінаўны – аформіць стэнд, у якім адлюстраваць супрацоўніцтва слынных віляйчан у "Нашай ніве" – легальнай штотыднёвай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеце, якая выдавалася ў Вільні ў 1906-1915 гадах.



**Дырэктар Ільянскай школы Ігар Юшко ў гісторыка-краязнаўчым музеі школы.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Адукацыя і культура

Абодва музеі – гэта агульны клопат настаўнікаў, вучняў, грамадскасці. Сёння Ільянская сярэдняя школа – самая буйная сярод сельскіх СШ раёна – у ёй займаецца больш за 300 вучняў. У 2000 годзе школа адзначыла паўвекавы юбілей першага выпуску. Сярод яе выпускнікоў – **Ігар Мікалаевіч Соніч** – былы выкладчык геаграфіі, а пазней – дырэктар гэтай жа школы. Цяпер на пенсіі, жыве ў Ільі.

Афіцыйная назва тэхнікума, без якога сёння не ўяўляецца былы райцэнтр, установа адукацыі "Ільянскі дзяржаўны сельскагаспадарчы тэхнікум", які рыхтуе ветэрынарных і заатэхнічных работнікаў. Летась ён адзначыў сваё 45-годдзе.

— Цяпер у нас займаецца 350 чалавек, – тлумачыць дырэктар тэхнікума **Святлана Несцяровіч**. – Гэта ў асноўным навучэнцы з Мінскай і Гродзенскай абласцей. Аднак нашы выпускнікі працуюць ва ўсіх кутках Беларусі. Многія з іх сталі вядомымі людзьмі ў рэспубліцы.

Тэхнікум забяспечаны надзвычайнай матэрыяльна-тэхнічнай і метадычнай базай, якая за кошт бюджэту і сродкаў спонсараў штогод пашыраецца. Усе жадаючыя навучэнцы забяспечаны інтэрнатам, які разлічаны на 400 месцаў, а жыве ў ім 190 чалавек, бо бацькі некаторых юнакоў і дзяўчат аддаюць перавагу прыватным кватэрам.

У сельскім Доме культуры развіваецца мастацкая самадзейнасць. Сярод усіх аматарскіх калектываў вылучаецца эстрадная студыя аўтарскай песні **Галіны Кутас** "Імпэт". Хоць студыя існуе ўсяго некалькі гадоў, але ўжо стала лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу аўтарскай песні.

Галіна ў 1971 годзе закончыла Мінскі педагагічны інстытут па спецыяльнасці хімік-біёлаг. Ужо 15 гадоў працуе старшыняй Ільянскага сельскага Савета. Цяга да паэзіі прачнулася ў сталым узросце. Ужо напісана каля 30-і ўласных песень. І вось – свая студыя, якая ўжо здала экзамен на атрыманне звання народнага. Слава пра "Імпэт" выйшла далёка за межы Ільі. І пра кіраўніка студыі, як і пра некаторых іншых, хто ўзгадваецца ў гэтым артыкуле, некалькімі словамі не абмяжуешся – пра іх трэба расказваць асобна.

**Барыс МАНЦЭВІЧ.**

■ «РГ» – СТАТЫСТЫКА

Прапануем статыстыку, якая тычыцца ФК "Маладзечна-2000".

### Матчы за клуб

Апошнія два сезоны склад каманды практычна не мяняўся, таму да верхніх пазіцый у гэтых рэйтынгах падцягнуліся некаторыя сённяшнія лідэры каманды.

1.Казяк ........................ 183
2.Лебедзеў ..................... 174
3.Клімовіч ...................... 166
4.С. Кабельскі .................. 150
5.Акуліч ........................ 118
...15. Макрыцкі ................. 64
24. Д. Кабельскі ................ 50
28. Дараховіч ................... 43
29. Азаронак .................... 42
30-31. Сысой .................... 41
36. Сідарэнка ................... 37

### Галы за клуб

1.Вяжэвіч ....................... 40
2.Казяк ......................... 32
3-4.Лукін ....................... 15
3-4.Акуліч ...................... 15
...12-15. Сідарэнка ............. 7
16-20. Макрыцкі ................. 6

### Гульні без пропуску

1.Клімовіч .......... 65 .. 1995-97
2.Макрыцкі* ...... 52 .. 2001-02
3.Казяк .............. 51 .. 1995-97
4.Клімовіч .......... 44 .. 1997-98
5-6.Бычкоўскі ..... 38 .. 2001-02
5-6.Лукашэнка ... 38 .. 1994-95
7. Дулуб ............. 36 .. 1993-94
... Дараховіч* ..... 16 ....... 2002

### Гульні запар без замен

1.Клімовіч ..... 45 ........ 1995-96
2.Шалай ......... 25 ............ 1997
3.Лебедзеў ..... 21 ........ 1992-93
4.Клімовіч ..... 20 ............ 1998
...Дрозд* ........ 13 ............ 2002
...Сысой* ........ 11 ............ 2002

Зорачкай пазначаныя серыі, якія працягваюцца.

Падрыхтаваў Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ФУТБОЛ, ЭКСПРЭС-АНАЛІЗ

# На старце ўсе роўныя

**Чаго чакаць балельшчыкам ад чарговага, 13-га па ліку, чэмпіянату краіны ў вышэйшай лізе?**

Фаварытамі з'яўляюцца шэсць каманд з верхняй паловы леташняй выніковай табліцы. Гэта БАТЭ, "Нёман", "Шахцёр", жодзінскае "Тарпеда", "Гомель", мінскае "Дынама". Кожны з іх мае маральнае права апынуцца ўвосень у тройцы прызёраў. За чэмпіёнства ж пазмагацца, напэўна, ёсць рэальныя перспектывы ў мінулагодніх удзельнікаў "залатога" матча барысаўчан і гродзенцаў, а таксама ў сталічных дынамаўцаў, якія за зіму ўзмацнілі свой склад найлепш за астатніх.

Зусім немагчыма спрагназаваць, як выступяць сёлета "Тарпеда-СКА" і "Маладзечна-2000". Іх склад дазваляе быць у сярэдзіне табліцы, але фінансавае становішча гэтых клубаў застаецца ў тумане. Сераднякамі прадстаўляюцца "Белшына", "Днепр-Трансмаш" і брэсцкае "Дынама". Іх бюджэтная падтрымка дазваляе захаваць месца ў лізе, але прэтэндаваць на лідэрства будзе складана.

Не ўражваюць па імёнах склады "Славіі", "Зоркі-ВА-БДУ", "Дарыды", "Нафтана" і "Лакаматыва". Прычым тройка першых з гэтага спісу мае значныя фінансавыя праблемы.

### Склад

За тры месяцы перадсезоннай падрыхтоўкі маладзечанцы правялі 29 сустрэч. У 11 з праведзеных сустрэч



Пасля апошняга матча мінулага чэмпіянату футбалісты ФК "Маладзечна-2000" зрабілі здымак на памяць. У міжсезонні асноўны склад каманды зменіцца ледзь ні напалову. Архіў "РГ".

маладзечанцам супрацьстаялі каманды айчыннай вышэйшай лігі. Баланс матчаў такі: +3=4-4 14-18. Акрэсліў сябе ў якасці лідэра атак **Макрыцкі**, які забіў 5 галоў з гэтых 14. Двойчы забіваў **Веташкін**, 7 футбалістаў правялі па голу.

Трэнерскі штаб шмат эксперыментаваў са складам: спрабаваў гульцоў на розных пазіцыях і ў розных спалучэннях. Найбольш трывожна зараз за варатарскую пляцоўку, дзе з дасведчаных галкіпераў застаўся толькі **Сцепановіч**. У абароне побач з **Драздом** і **Сысоем** трывала замацаваліся **Косак**, **Крывіцкі** і, што вельмі прыемна, мясцовы выхаванец **Альховік**. **Азаронак** і **Смірных** часцей выходзілі ў сярэдзіне поля, але апошнія паўтара месяца ім не давалі спакою траўмы. Таму ў цэнтральнай зоне гуляюць **Дараховіч** і **Кабельскі**. На флангах трэнеры выкарыстоўваюць **Пазняка, Лявончыка**, Веташкіна. Наперадзе побач з Макрыцкім па-ранейшым застаўся **Сідарэнка**.

Магчыма, атрымаецца прабіцца ў аснову камусьці з навічкоў, якія прыйшлі ў апошнія тыдні. Універсалам праяўляе сябе **Маляўка**. Ён можа гуляць на краях абароны і паўабароны, выходзіў нават у нападзенні.

На жаль, мясцовыя **Пятроўскі**, **Мятліцкі**, **Смірноў** і **Грыхуцік**, якія значна дапамаглі камандзе летась, зараз аказаліся першаму складу непатрэбнымі.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ КАЛЯНДАР

## Пачынаем з мінскага «Дынама»

Перад назвай каманд-сапернікаў указаны іх месцы па выніках мінулага чэмпіянату. Далей ідуць даты матчаў (дзень/месяц) першага і другога кругоў, тут дамашнія сустрэчы адзначаныя зорачкай.

Як стала вядома перад здачай газеты ў друк, старт чэмпіянату з-за неспрыяльнага надвор'я перанесены на 18 красавіка і пачнецца матчамі другога тура. Маладзечанцы ў той дзень будуць гуляць на выездзе супраць мінскага "Дынама". Матчы першага тура перанясуць на адзін з рэзервных дзён.

| Каманда-сапернік | 1 круг | 2 круг |
|---|---|---|
| 1. БАТЭ (Барысаў) | 12.04, субота | **3.08, нядзеля*** |
| 7.Дынама (Мінск) | 18.04 , пятніца | **17.08, нядзеля*** |
| 8 .Белшына (Бабруйск) | **26.04, субота*** | 23.08, суб. |
| 6.Гомель | 4.05, нядзеля | **31.08, нядзеля*** |
| 12.Зорка-ВА-БДУ (Мінск) | **12.05, пан.*** | 14.09, нядзеля |
| 5.Тарпеда (Жодзіна) | 20.05, аўторак | **20.09, субота*** |
| 3.Шахцёр (Салігорск) | **28.05, серада*** | 28.09, нядз. |
| 2 (Д2).Нафтан (Наваполацк) | 1.06, нядз. | **4.10, суб.*** |
| 3 (Д2).Лакаматыў (Мінск) | **14.06, суб.*** | 11.10, субота |
| 2.Нёман (Гродна) | 18.06, серада | **18.10, субота*** |
| 11.Славія (Мазыр) | **25.06, серада*** | 22.10, серада |
| 4.Тарпеда-СКА (Мінск) | 2.07, серада | **26.10, нядзеля*** |
| 9.Днепр-Трансмаш (Магілёў) | **9.07, серада*** | 1.11, субота |
| 10.Дынама (Брэст) | 13.07, нядзеля | **5.11, серада*** |
| 1 (Д2).Дарыда (Мінскі раён) | **19.07, суб.*** | 9.11, нядз. |
| 1/16 фіналу Кубка краіны | 9 жніўня, субота | |
| 1/8 фіналу Кубка краіны | 8 кастрычніка, серада | |

**Заўвага**. Летась "Дарыда", "Нафтан" і "Лакаматыў" гулялі ў другім беларускім дывізіёне (Д-2).

Па вялікім рахунку, каляндар раўнамерны. Амаль нельга вылучыць серыі ў некалькі матчаў запар з надта моцнымі ці крыху слабейшымі сапернікамі. Добра, што фінішны лістапад пройдзе ў саперніцтве з патэнцыяльнымі сераднякамі.

Больш рэзкі малюнак вылучаецца пры разглядзе дамашніх і выязных серый. На старце "Маладзечна-2000" паедзе па маршруце БАТЭ – "Дынама" (Мн) – "Гомель" – "Тарпеда" (Ж), а ў жніўні-верасні будзем чакаць іх у сябе.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ НАШЫЯ ІНТЭРВ'Ю

## Віталь Макрыцкі: хачу больш забіваць

**МАЛАДЗЕЧНА. Ужо колькі часу клубу цяжка даюцца забітыя мячы. З сярэдзіны 90-х, калі ў маладзечанскай камандзе выступалі Аляксандр Вяжэвіч і Уладзімір Макоўскі, у каманды няма відавочнага лідэра ў атацы. У сёлетнім міжсезонні больш за іншых забіў нападаючы Віталь Макрыцкі.**

**– Як ацэньваеш зробленае за зіму?**

– Усё лепш, чым раней. Папершае, адзначу трэніроўкі **Акшаева**. Яны цікавыя, разнастайныя. Напрыклад, пры Румбуцісе мы кожны дзень рабілі адно і тое ж. Цяпер жа многае ў навінку, працаваць стала больш прыемна. Зараз мы даведаліся шмат новага і важнага ў прафесійным плане.

Пакрыццё ў манежы, як казаў Акшаеў, мае адзін недахоп – занадта роўнае. Адзначу, што там цяжка дыхаецца. Прастора невялікая, таму ў цёплыя дні душна. А гумавая крошка, пасыпаная для мяккасці, забіваецца ў дыхальную сістэму, пачынаецца кашаль.

**– 8 галоў за два месяцы (з іх 5 – камандам вышэйшай лігі) – тое, што трэба!**

– У міжсезонні я і год назад забіваў. А вось у чэмпіянатах у мяне ўжо тры гады запар усяго па два ўзяцці варот. Магчыма, справа ў тым, што ў кантрольных матчах сапернікі слабейшыя, не так упарта абараняюцца. А, магчыма, сапраўды, сёлета, што называецца, прарве, буду лепш рэалізоўваць свае моманты, стабільна забіваць галы.



Нападаючы ФК "Маладзечна-2000" Віталь Макрыцкі. Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

**– Трэнеры адзначаюць, што на выездзе ты гуляеш горш, чым дома. Тлумачаць гэта тым, што, калі на трыбунах прысутнічаюць твае родныя, знаёмыя, ты дзейнічаеш больш удала. Згодны?**

– Не ведаю. Заўсёды ж і дома, і на выездзе настройваюся на гульню ў поўнай меры. Напэўна, з боку лепш бачна, як у мяне атрымліваецца. Цяжка сказаць, чаму менавіта так.

**– Цябе на полі выкарыстоўваюць у трох ролях. Як адзінокага нападаючага, у пары з другім нападаючым і на правым краі паўабароны. А што табе самому больш падабаецца?**

– Аднаму ў атацы цяжка, бо прыходзіцца змагацца з чатырма абаронцамі. Нашмат лягчэй, калі побач знаходзіцца партнёр-форвард. На фланг мяне ставілі па неабходнасці, пры праблемах са складам. Хаця калісьці на "Крыштальным мячы" я пачынаў якраз там. Так што найлепш сябе адчуваю, безумоўна, наперадзе, калі тактыка з двума форвардамі.

**– Поспехаў табе і нашай камандзе сёлета.**

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ФУТБОЛ

# Спрэчкі скончыліся

**«Маладзечна-2000»**

У мінулыя выхадныя крыху затушылі складаную псіхалагічную сітуацыю ў клубе, выкліканую фінансавымі цяжкасцямі і праблемамі ва ўзаемаадносінах паміж зацікаўленымі бакамі.

Маюцца на ўвазе тыя, хто мае дачыненне да клубнага жыцця: футбалісты, трэнеры, спонсары. Пры гэтым рэвалюцыйных зменаў не адбылося.

5 красавіка. СШ№5. Маладзечна-2000 – МТЗ-РІПА (Мінск, Д2) 1:1 (1:0).

Галы: Кабельскі (25); (83).

Апошнія некалькі тыдняў з дублем не працуюць мясцовыя спецыялісты **Аляксандр Гармаза і Андрэй Найдзіч**. Яны патлумачылі свой адыход нявыплатай зарплаты.

**«Смаргонь»**

4 красавіка. Смаргонь. Смаргонь – Дарыда 0:1.

Гол: (83).

5 красавіка. Смаргонь. Смаргонь – Тарпеда-СКА (Мінск, дубль) 2:2 (1:2).

Галы: Валовік (38), Грабаздзін (70); (13), (20).

Няма ўжо ў складзе легіянера Аляксандра Селіванава, але яму "на змену" прыехаў з Луганска паўабаронца 1981 г.н. **Дзмітрый Тарасаў**.

Таксама на праглядзе знаходзіцца паўабаронца 1982 г.н. **Дзмітрый Трындзюк** з дубля мінскага "Дынама".

**«Забудова»**

2 красавіка. СШ№5. Забудова – ДЮСШ-87 8:0 (5:0).

Галы: Савіцкі, Антановіч, Вышынскі, Смірноў, Півавар, Чабрыцкі, Макей, Грыхуцік.

3 красавіка. Манеж. Забудова – Змена (Мінск) 2:0.

Галы: Антановіч (32), Грыхуцік (67).

Да складу чысціцнаў далучыліся мясцовыя футбалісты, якія летась выступалі ў "Маладзечна-2000", а зараз не змаглі прабіцца там у асноўны склад, за дубль жа гуляць адмовіліся. Гэта ў першую чаргу **Аляксандр Грыхуцік, Дзяніс Мятліцкі, Павел Пятроўскі, Дзяніс Смірноў**.

Выходзіў у складзе **Дзмітрый Вышынскі**, таксама мясцовы выхаванец, паўабаронца 1975 г.н., які выступаў за маладзечанскую каманду ў вышэйшай лізе побач з братамі Макоўскімі, правёў тады 38 матчаў і забіў 3 галы.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



Маладзечанец Дзмітрый Кабельскі ў мінулую суботу вызначыўся голам у гульні супраць мінскага МТЗ-РІПА.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

■ МІНІ-ФУТБОЛ

## Гістарычны гол Галубко

**МАЛАДЗЕЧНА. Пасля перамогі ў зоне абласнога чэмпіянату, аб чым "РГ" ужо паведамляла, маладзечанцы прымалі ў паўфінальным матчы каманду Дзяржынска і выйгралі 11:7.**

У маладзечанцаў забілі **Віктар Нарожнік** – 3 галы; **Уладзімір Галубко, Аляксандр Гармаза, Генадзь Талькоўскі** – па 2; **Андрэй Радкевіч, Аляксандр Чарняўскі** – па 1.

Потым ездзілі на фінальны турнір у Барысаў. Там саступілі Мар'інай Горцы 3:4, гаспадарам 2:4 ды перамаглі Салігорск 6:2, стаўшы ў выніку трэцімі. Забівалі Галубко – 5; Чарняўскі – 4; Лепеш, Г. Талькоўскі – па 1.

Потым у Стайках упершыню праўшоў чэмпіянат краіны сярод зборных абласцей. Каманда Міншчыны, за якую выступаў Галубко, стала пераможцай. Зазначым, што маладзечанец забіў першы гол у стартавым матчы чэмпіянату супраць віцяблянаў (5:2). Потым ён забіў тройчы брэстаўчанам (7:5) і ў паўфінале правёў два галы сталічнай "Арбіце" (4:1). У фінале зноў перамагла Віцебская вобласць, але барацьба ішла звышупартая (3 2).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ СТАДЫЁН

## Адрамантавалі базу ФК «Маладзечна»

**МАЛАДЗЕЧНА. Са сродкаў абласнога і гарадскога бюджэтаў праведзены капітальны рамонт у памяшканнях гарадскога стадыёна.**

Сучасны выгляд набыла гасцініца на трэцім паверсе. Напрыклад, ва ўсіх нумарах падвешаны да столі тэлевізары. Вельмі камфортнымі сталі два "люксы" на другім паверсе. Змяніліся таксама сантэхнічны вузел і кухня. На першым паверсе летась была пераароблена адна з раздзявальняў, сёлета – другая. Да бегавых дарожак праведзены спецыяльны тунэль для выхаду футбалістаў. З якаснага полікарбанатнага матэрыялу выраблены месцы для трэнераў і запасных, а таксама казырок ложы для ганаровых гасцей.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



База Маладзечанскага гарадскога стадыёна набыла сучасны выгляд.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Табло**

■ РУКАПАШНЫ БОЙ

**МАЛАДЗЕЧНА. Прайшло адкрытае першынство сталіцы па рукапашным боі сярод старэйшых юнакоў і юніёраў. Чацвёра выхаванцаў клуба "Гладыятар" сталі пераможцамі.**

Гэта старэйшыя юнакі **Сяргей Кармазін** (да 76 кг, Чысць) і **Дзяніс Муха** (72 кг, Маладзечна), юніёры **Павел Лапата** (80 кг, Маладзечна) і **Аляксей Кудзін** (+90 кг, Чысць). Іх трэнеры **Міхаіл Панцюхоў, Сяргей Панцюхоў, Алег Пятровіч**. Кармазін і Лапата былі прызнаныя лепшымі байцамі спаборніцтваў.

Усе чатыры хлопцы будуць удзельнічаць у адборачных рэспубліканскіх спаборніцтвах для ўдзелу ў складзе маладзёжнай зборнай Беларусі на чэмпіянаце свету па тайландскім боксе ў ліпені.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ШАХМАТЫ

**ВІЛЕЙКА. На працягу двух месяцаў 19 шахматыстаў ад школьнікаў да пенсіянераў змагаліся за шахматную карону горада.**

Першае месца падзялілі **Леанід Маскалёў і Аляксей Гатоўка**, другое заняў **Павел Петрашэўскі**. Першынство горада адбылося дзякуючы старшыні раённага Савета дэпутатаў **Яўгенію Ігнатовічу**, дырэктару хлебазавода **Аляксандру Сяргею** і дырэктару музычнай школы **Анатолію Шагаву**.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

■ ТАЙСКІ БОКС

**МАЛАДЗЕЧНА. Выхаванцы клуба "Гладыятар" прынялі ўдзел у міжнародным турніры ў Мінску.**

Ездзілі 14 хлопцаў, 10 з іх сталі прызёрамі. Першае месца – адно. Яго заваяваў чысцінец Сяргей Кармазін (юніёры, 81 кг). Сярод пяці сярэбраных прызёраў можна вылучыць маладзечанца **Уладзіміра Пацалуева** (кадэты, 28 кг). Застаўся на трэцім месцы, не здолеўшы з-за траўмы працягнуць спаборніцтвы, **Канстанцін Мірошнікаў** (юнакі, 46 кг).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ БАСКЕТБОЛ

**АСТРАВЕЦ. Завяршылася першынство раёна сярод юнакоў і дзяўчат.**

Тройкі прызёраў. Юнакі: 1. СШ№2 (Астравец). 2. СШ№1 (Астравец). 3. Міхалішская СШ. Дзяўчаты: 1. Гервяцкая СШ. 2. СШ№2 (Астравец). 3. Падольская СШ.

У юнакоў вылучаліся **Ігар Субач** (СШ№2), **Яўген Магадзя, Андрэй Бекетаў** (абодва – СШ№1). У дзяўчат сваімі байцоўскімі якасцямі запомніўся ўвесь калектыў Гервяцкай СШ.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ

**МАЛАДЗЕЧНА. Традыцыйны турнір па міні-футболе памяці Арнольда Бохана сабраў 4-6 красавіка 8 каманд.**

Па дзве лепшыя з дзвюх папярэдніх груп утварылі фінальную чацвёрку. Месцы ў ёй размеркаваліся так: 1. ЗМК. 2. Пуцеец-1. 3. Пуцеец-2. 4. Унікаб.

Лепшымі на турніры былі прызнаны прадстаўнікі "Пуцеец-1" варатар **Мароз** і нападаючы **Татун**, які забіў у фінальнай частцы найбольш галоў – 6.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ТУРЫЗМ

## На веласіпедзе ў Санкт-Пецярбург

**МАЛАДЗЕЧНА. Маскоўскі клуб велатурыстаў арганізуе веламарафон, які прысвечаны 300-годдзю Санкт-Пецярбурга.**

Марафон пройдзе з 9 па 28 мая па гарадах: Масква, Смаленск, Орша, Мінск, Полацк, Пскоў, Санкт-Пецярбург.

17 мая марафон робіць прамежкавы фініш у Мінску, дзе адбудзецца сустрэча з беларускімі велатурыстамі. Пасля аб'яднаная каманда турыстаў адправіцца ў Санкт-Пецярбург і фінішуе там 27 мая.

Запрашаюцца да ўдзелу беларускія велатурысты. Жадаючыя, званіце ў маладзечанскі турклуб "Пілігрым" па тэлефоне 6-18-21.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ БІЛЬЯРД

## Турнір у «Караліне»

**МАЛАДЗЕЧНА. Прайшлі спаборніцтвы ў клубе "Караліна".**

Чэмпіянат Мінскай вобласці.

Сабраліся 30 удзельнікаў, з рэгіёну было дзесяць маладзечанцаў. У васьмёрку мацнейшых увайшлі трое з іх. У чвэрцьфінале **Аляксандр Салаўёў** саступіў 1:3 вельмі таленавітаму юнаку з Барысава Яўгену Курту. **Ігар Агузаў** і **Уладзімір Патапаў** прайшлі гэты раунд без праблем, а вось у паўфіналах ім прадстаялі нялёгкія іспыты. З мінімальным лікам 3:2 яны перамаглі барысаўчан, адпаведна Аляксандра Алейнікава і таго ж Курту. Унутрымаладзечанскі фінал абласнога першынства засведчыў перавагу Агузава. Лік 4:0.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ТУРЫЗМ

## «Бронза» маладзечанцаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Паход пад кіраўніцтвам выкладчыка фізвыхавання Маладзечанскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа Міхаіла Есьмановіча заняў 3-е месца на абласным конкурсе.**

Арганізатар – упраўленне адукацыі Мінскага аблвыканкома. Яно разглядала катэгарыйныя паходы, якія праводзіліся ў мінулым навучальным годзе і летам 2002 года. Маршрут веласіпеднага паходу першай катэгорыі складаласці пачынаўся і заканчваўся ў горадзе, а праходзіў праз Нарачанскія, Свірскія азёры. Пабывалі школьнікі і ў адным з прыгожых месцаў нашай краіны – заказніку "Блакітныя азёры".

**Сяргей БЯЛКОЎ.**

# ВІНШАВАНКІ

Віншуем любімага сына **Сашачку** з днём нараджэння! Здароўя, поспехаў, верных сяброў, вялікага шчасця. *Бацька і маці Старасотнікавы.*

Віншуем любімага мужа і тату **Занкавіча Івана** з Вілейкі з днём нараджэння! Здароўя, дабрабыту. *Жонка, сыны.*

**Уладзімір Віктаравіч Полаз** мае 55 год. Жыццё - яно ж, як каса, - любіць парася, а як хлеб ды ваду, - то ляжы ў халаду, як састарышся. *Сваяк.*

Віншуем **Вярбоўскую Алену** з 18-годдзем! Жадаем шчасця, здароўя, кахання і ўсяго найлепшага. *Мама, тата і сястра Наташа.*

Віншуем з 35-годдзем **Ігара Захарава!** Жадаем здароўя, кахання, удачы, сямейнага дабрабыту, вечнай маладосці. *Жонка і дзеці.*

Віншуем з днём нараджэння **Крэнць Славу**! Жадаем здароўя, поспехаў, шчасця, кахання. *Сям'я Захаравых.*

Віншуем дарагога **Жыжэнку Уладзіміра Васільевіча** з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў. *Жонка, дачка Оля.*

**Жыжэнка Уладзімір Васільевіч!** Желаем счастья, радости, добра і сердечного тепла. *Родныя.*

Віншуем **Бураву Ірыну** з 40-годдзем. Жадаем здароўя, даўгалецця, шчасця, поспехаў і сямейнага дабрабыту! *Дачка, сын і муж.*

Віншуем **Герашчанку Дзмітрыя** з п. Радашкавічы з днём нараджэння! Здароўя, кахання, удачы. *Бацькі, брат і яго сям'я.*

Дарагую матулю, бабулю **Буркевіч Галіну Міхайлаўну** віншуем з днём нараджэння! Шчасця, здароўя, даўгалецця. *Сын, нявестка, унукі.*

Віншуем з 16-годдзем дарагую, лбюбімую дачушку і сястрычку **Дашу Азончык** з Вілейкі. Кахання! *Сям'я Азончык.*

Віншуем з днём нараджэння **Савіча Тадэвуша Францавіча**! Жадаем здароўя, шчасця, кахання, дабрабыту! *Сын, нявестка, унук.*

Віншуем з 50-годдзем **Карташэвіч Людмілу Мікалаеўну!** Жадаем сямейнага дабрабыту, здзяйснення усіх мараў, даўгалецця. *Сем'і Карташэвіч, Рабішка, Чарняўская.*

Віншуем дарагую, ненаглядную, непаўторную **Людмілу Мікалаеўну Карташэвіч** з юбілеем. Жадаем моцнага здароўя і удачы. *Сем'і Карташэвіч, Рабішка.*

Віншуем **Гладкую Насцечку** з 18-годдзем! Жадаем здароўя, кахання, поспехаў у вучобе, ласкавых усмешак і удачы. *Любячыя тата, мама, сястра.*

Віншуем **Зялкоўскую Ірыну.** Стала 45 гадоў - баба ягадка ізноў! Здароўя, шчасця, грошай і сямейнага дабрабыту. *Калектыў.*

Віншуем **Ясюкевіч Валянціну** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, даўгалецця, поспехаў і вялікага чалавечага шчасця. *Сям'я Буравых.*

Віншую дарагога мужа **Шэмета Аляксандра Леанідавіча** з 40-годдзем. Жадаю моцнага здароўя, вялікага кахання, шчасця. *Елена, г. Вілейка.*

Віншую **Віцечку Куліка** з 25-годдзем! Жадаю моцнага здароўя, шчасця і кахання. *Сонейка.*

# ЗНАЁМСТВЫ

Пазнаёмлюся з мужчынам 47-60 гадоў для стварэння сям'і. З МПВ не пісаць. МС 0279029. Г. Вілейка-4, 222410.

■ КОНКУРС

# Не хапіла батарэі

**МАЛАДЗЕЧНА. Тыдзень таму вясна набірала моц. І ў гарадскім парку прайшоў конкурс на лепшую шпакоўню.**

На конкурс былі прадстаўлены 23 шпакоўні. Амаль 2 тыдні 7-12-гадовыя школьнікі з СШ №1 рыхтаваліся да яго. Шпакоўні дапамагалі рабіць таты і дзядулі. Хаткі для птушак былі на ўсе густы. Напэўна, каб канкурсанты прадбачылі сёлетні красавіцкі снег, то і батарэі да шпакоўні прыладзілі б.

Пераможцай аказалася першакласніца Каця Ракоўская. Яе шпакоўня зроблена з захаваннем нормаў і памераў, неабходных для птушкі. Атрымалася так званая класічная шпакоўня. 2-е месца заняла трэцякласніца Вольга Сырамятнікава. Шпакоўня была сапраўдным еўрадомам, толькі для птушкі. Хатку так і празвалі еўрашпакоўня. Яе зрабілі з сучасных еўрабудматэрыялаў, ды і памераў яна была вельмі ўнушальных. 3-е месца — за арыгінальнасць — далі пяцікласніцы **Надзеі Ермалковіч**. Шпакоўня мела сваю адметнасць: яна была з двума ўваходамі-выхадамі. Як быццам 2-павярховая. Толькі перагародку, што падзяляе на паверхі, забыліся зрабіць.

Пераможцам далі бясплатныя запрашальныя білеты на арэлі на 30, 20 і 10 дзён за 1-е, 2-е і 3-е месцы адпаведна. Астатнім удзельнікам — бясплатны білет на адзін дзень.



23 шпакоўні прымацаваныя на мінулым тыдні ў Маладзечанскім гарадскім парку. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Пасля падвядзення вынікаў кожны выбраў дрэва, на якое хацеў бы прымацаваць сваю шпакоўню. І атрымалі яшчэ адно заданне — назіраць за свяй шпакоўняй. Калі птушка паселіцца, то ў падарунак яшчэ адзін дзень можна будзе бясплатна пакатацца на арэлях.

Ірына РАБУШКА.

■ ІМЯНІНЫ

**11 красавіка**
**Праваслаўныя**: Астапа, Івана, Кірылы, Марка.
**Каталіцкія**: Лявона, Піліпа.
**12 красавіка**
**Праваслаўныя**: Сафрона.
**Каталіцкія**: Віктара, Зянона, Людаслава, Юльяна.
**13 красавіка**
**Праваслаўныя**: Іаанны, Апалонія, Веньяміна, Інакенція.
**Каталіцкія**: Марціна, Пшыбыслава, Пшэмыслава.
**14 красавіка**
**Праваслаўныя**: Марыі, Абрама.
**Каталіцкія**: Людвіны, Юстыны, Валяр'яна, Лямберта.
**15 красавіка**
**Праваслаўныя**: Палікарпа, Ціта.
**Каталіцкія**: Анастасіі, Базыля, Вацлава, Цэзара.
**16 красавіка**
**Праваслаўныя**: Фядоссі, Мікіты.
**Каталіцкія**: Ксеніі, Марыі, Юліі, Бенядзікта.
**17 красавіка**
**Праваслаўныя**: Георгія, Засімы, Іосіфа.
**Каталіцкія**: Роберта, Рудольфа, Сцяпана.

■ ВЫСТАЎКІ

## Чароўная Дама

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак у Мінскім абласным краязнаўчым музеі адкрылася выстаўка "Рыцарскі касцюм і ўзбраенне. XIII – XVI стагоддзі".**

Экспанаты прывезлі з гісторыка-патрыятычнага клуба "Тэўтоніка" з Мінска. У гэты клуб уваходзяць хлопцы і дзяўчаты 16-27 гадоў. Ён зарэкамендаваў сябе на еўрапейскіх рыцарскіх турнірах і фестывалях. Удзельнікі клуба сапраўды жывуць святам Сярэднявечча. І добра ведаюць, хто такая Чароўная Дама. У гэтую ролю добра ўвайшла сакратарка мясцовага музея **Вольга Куцкевіч**. Яна апранулася ў сярэдневяковае адзенне, пашытае з сучаснай тканіны. Гаворыць, крыху нязвыкла сябе адчувае, але зручна. Нават па вуліцы прагулялася б.

Ірына РАБУШКА.

## Кінатэатр «Радзіма»



**11-13 красавіка.** Лепшы прыгодніцкі фільм (6 намінацый на прэмію "Оскар") **"Уладар кольцаў: даве крэпасці"**, ЗША-Новая Зеландыя, 2 серыі – у 18.00. 12 і 13 красавіка – у 15.00 і 18.00.

Прыгодніцкая камедыя **"Поўны прывод"**, Францыя – у 21.00.

**14-20 красавіка. "Паравозчык"**, ЗША, баявік-дэтэктыў – у 17.00 і 19.00.

### Для дзяцей

**12, 13 красавіка. "Том і Томас"**, Англія, дэтэктыў-казка – у 13.00.

**Запрашаем на маладзёжныя вечарынкі ў пятніцу і суботу ў 22.00.** Дыскатэка для падлеткаў – у суботу, у 19.00. Прыходзьце! Будзе весела. Працуе бар.

**Камп'ютэрныя гульні** (прыстаўка "Соні"). Штодзённа, акрамя панядзелка, з 10.00 да 22.00.

Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ АДУКАЦЫЯ

## Выпускнік-2003

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры прайшоў фінальны тур конкурсу "Выпускнік-2003".**

Удзельнічалі 11 адзінаццацікласнікаў з школ раёна. Мусілі яны паказаць веданне камп'ютэра, сваю "візітоўку", адказаць на 50 пытанняў з розных навук, прадэманстраваць, як ўяўляюць школу будучыні. Першае месца заняла **Ніна Касцецкая** з Мядзельскай СШ №1.

Алесь ВЫСОЦКІ.

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Абакралі "ЭкаДом"

**МЯДЗЕЛ. На мінулым тыдні злодзей выламаў дзверы і залез у склад міжнароднага дабрачыннага грамадскага аб'яднання "ЭкаДом" у вёсцы Дружная.**

Скраў бензапілу "Штыль", электрарубанак, дрылі і іншы ручны будаўнічы інструмент.

Алесь ВЫСОЦКІ.

■ УДАКЛАДНЕННЕ

## Гран-пры – «Бярозцы»

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулым нумары ў матэрыяле "Яйка і кветкі" мы дапусцілі памылку.**

Гран-пры конкурсу "Залатыя нажніцы" дастаўся фабрыцы "Бярозка" за калекцыю "Мары збываюцца", а не швейнай фабрыцы "Юнона", як было ўказана ў артыкуле.

Просім прабачэння за дапушчаную памылку ў чытачоў.

Аддзел інфармацыі "РГ".

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

На мінулае пытанне паступіла 6 правільных адказаў.

Конкурс на пяцёрку білетаў у кінатэатр "Радзіма" быў невялікім. Віншую пераможцаў гэтага тура: **Кацярыну Якубоўскую, Галіну Мурашову, Яўгена Грыгарэнку, Віктара і Уладзіміра Яцкоўскіх!** Білеты ў кіно іх чакаюць у рэдакцыі да наступнай пятніцы.

Каб адказаць на наступныя пытанні, прагледзьце лютаўскія нумары "Рэгіянальнай газеты".

1. Хто перамог у конкурсе на самага актыўнага карэспандэнта, які правёў турклуб "Пілігрым"?

2. Колькі чалавек прыйшло на першую сустрэчу ў смаргонскі клуб адзінокіх маці "Мілэдзі"?

Адказы прымаюцца да 15 гадзін аўторка, 15 красавіка, па маладзечанскім тэлефоне 69667.

Юрый КАРПІЦКІ.

■ РЫНАК ПРАЦЫ

# Вакансіі

**МАЛАДЗЕЧНА. Звесткі з прадпрыемстваў аб неабходнасці ў кадрах.**

| Назва прадпрыемства | Неабходна (чалавек) |
|---|---|
| **"Аграсувязьэлектроніка"** (тэл. 3-27-04) | 2 |
| Радыёмеханік | 1 |
| Галоўны бухгалтар | 1 |
| **МП "Аграсінтэз"** (тэл. 3-05-21) | 8 |
| Вальшчык лесу (брыгада) | |
| Вадзіцель аўтамабіля ("В", "С", "Д", "Е") | |
| Электрык | |
| **ПКУП "Бард"** (тэл. 5-42-14) | 14 |
| Ізаліроўшчык | 2 |
| Слесар-мантажнік | 5 |
| Электрагазазваршчык | 5 |
| Інжынер КВПіА | 1 |
| Цеплатэхнік | 1 |
| **ААТ "Будаўнік-169"** (6-70-73) | 1 |
| Слесар-рамонтнік будаўнічага абсталявання | 1 |
| **МОУП "Завод металавырабаў"** (тэл. 7-61-44) | 2 |
| Наладчык абсталявання | 1 |
| Токар | 1 |
| **Кінавідэапракат** (тэл. 7-17-02) | 2 |
| Бармен, г.п.Радашкавічы | 1 |
| Дырэктар, г.п.Радашкавічы | 1 |
| **ДУП "Маладзечнааўтатэхсервіс"** (тэл. 7-12-04) | 5 |
| Зваршчык-рыхтоўшчык | 3 |
| Слесар па рамонту аўтамабіляў | 2 |
| **КААП "Сельскі будаўнік"** (5-31-31) | 3 |
| Сталяр | 3 |

# Купон 15

Рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету! Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

